# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 33 (295) 23—29 жніўня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ







# КВЕТКІ І НЯНАВІСЦЬ

Людзі адрозніваюць адзін грамадскі лад ад другога паводле спосабу вытворчасці (цяпер часцей — паводле спосабу прыўлашчвання); узровень цывілізацыі (згодна з Марксам) — паводле стаўлення мужчыны да жанчыны (сустракаўся мне ў апошні час і іншы "метр": стан грамадскіх прыбіральняў). Старажытныя паназе пазнавалі Геркулеса.

У мяне, на Вінніцкім Замосці, дасюль па паху пазнаюць, з якой сыравіны гоняць гарэлку. А здаралася там жа, на Замосці, з павагай разглядалі штотыднёвыя "ліхтары" на смуглявым цыганістым твары майго сябрука Пецькі Кілімчука: цанілі смеласць гэтага хлопца, які мог адзін пайсці супраць дзесяці, ведаючы, чым гэта скончыцца, але, галоўнае, не пабегчы.

І такім жа галоўным для яшчэ аднаго майго настаўніка з Замосця, дзядзькі Колі Дабравольскага, пастаянна і сур'ёзна запіваючага з "дагістарычных часоў", было: дайсці, дабрацца, дапаўзці да роднага ганка і, выкінуўшы да дзвярэй руку з кветкамі, вымавіць: "Наталля — тобі квіткі!" Колькі выпіта —столькі кветак. Заўсёды. Мы, пацаны, лічылі яго амаль Д'Артаньянам.

Мой бацька, які сорак два гады "адкатаўся" на цягніках па формуле: чацвёра сутак у дарозе — чацвёра дома, — з кожнай паездкі вёз маме кветкі.

Вінніца любіць кветкі старажытна, традыцыйна. Яны звыкла жывуць на вуліцах горада, вольна і бясстрашна, як і вінніцкія дзеці. І нічога звышзвычайнага не бачыў я ў тым, што кожны дзень сустракаў сваю маладую жонку, якая працавала тады ў мінскім інстытуце замежных моваў, букецікам кветак паводле сезона. Аднойчы яна сказала мне: "Паглядзі на вокны інстытута..." Ва ўсіх вокнах, звернутых на вуліцу Захарава, былі бачныя твары студэнтаў. "Ведаеш, што яны пра цябе гавораць?" І яна сказала, што яны пра мяне гавораць. Яна сказала, а я не зразумеў: мой жа бацька заўсёды прывозіў маме кветкі, але яго ніхто не называў ненармальным. І дзядзьку Колю не называлі ненармальным, а толькі алкаголікам. Яны з цёткай Наташай у рэшце рэшт разышліся, але, я мяркую, што, калі б не кветкі, яны б разышліся, не паспеўшы пажаніцца.

Неаднойчы навучэнцы мінскай 38-й прафтэхвучэльні пыталіся ў мяне, свайго настаўніка: "Што трэба дарыць дзяўчынцы на дзень нараджэння?" І я з чыстым сумленнем адказваў: "Калі ты хочаш з ёю ажаніцца, дык любы падарунак, хаця б матацыкл, але абавязкова кветкі, але калі не, дык толькі падарунак".

Адна з маіх першых газетных камандзіровак у Пінск, ранняй вясною 1960 года, скончылася падарункам сяброў-журналістаў: яны паказалі мне старое, квітнеючае балота... Такога казачнага дывана з жывых кветак я ўжо болей ніколі не бачыў. Гэты падарунак са мною вось ужо сорак гадоў.

У 1972 годзе я наведаў Саласпілс. І там я бачыў, як ішла праз лес, што атачаў былы лагер смерці, самотная жанчына ў чорным і несла дзевяноста тысячам забітых людзей адну чорную ружу...

Кветкі ўмеюць гаварыць і на вяселлі і на хаўтурах, падчас святаў і ў будні. Яны ўмеюць прымусіць усміхнуцца нават каменных людзей. Кветкі — гэта радасць. Гэта — жыццё. Кветкі — гэта любоў, пра якую моўчкі гаворыць чалавек чалавеку, працягваючы яму сямікалерны цуд прыроды, створаны ёю ў прадчуванні з'яўлення чалавека на Зямлі. Цуд, створаны дзеля таго, каб чалавек усвядоміў сябе дачыненым да прыгажосці.

У Брэмене, дзе я цяпер жыву (жыву з пастаяннай тугою па Мінску), кветкі, што нагадваюць мне пра Беларусь, — кругласутачныя спадарожнікі чалавека. Немец не прыйдзе ў госці без кветак. Немец не жыве ў доме, дзе няма кветак.

У горадзе безліч кветкавых крамаў, а падваконні дамоў —гэта маленькія аранжарэі. Дзеці, сабакі і кветкі — "свяшчэнныя каровы" Брэмена. У мяне ў доме таксама ўтварылася аранжарэя — падараваныя кветкі і карлікавыя дрэвы. Раніцай, да ўзыходу сонца, я паліваю 18 падараваных нам вазонаў.

Вы можаце запытацца, чаго гэта я спяваю такую доўгую песню кветкам Украіны, Беларусі і Германіі. І я магу вам адказаць: "Таму, што "душа моя уязвлена была". Менавіта наконт кветак. Менавіта ў тым горадзе, які ўжо сорак гадоў — мой дом. А выпадак "дробны" такі, тралейбусны, побытавы. Але па ім можна "палічыць", колькі разоў падобнае здараецца ў тралейбусах і не ў тралейбусах з кветкамі і не з кветкамі.

Гэта быў чацвёрты дзень майго мінскага жыцця пасля паўгадавога эміграцтва, чацвёрты дзень шчасця і родных людзей, стасункаў і атмасферы здзейсненай мары. Як цяпер жыве Мінск, не мне казаць мінчанам. Я ехаў "пікавым" тралейбусам да сябе на Паўднёвы Захад дзесьці а сёмай гадзіне. На задняй пляцоўцы было цесна і горача. Жаданне было адзінае: хутчэй бы дабрацца да душа. На чарговым прыпынку, калі адчыніліся дзверы, я пачуў зласлівы, гучны жаночы мат і такую сентэнцыю: "Ты чаго з кветкамі сунешся ў тралейбус?! Графіня! З кветкамі ў таксі трэба ездзіць!"

Вось, уласна кажучы, і ўсё, што здарылася. Амаль нічога. Нічога?

Чаму ж мне ўзгадаўся Шукшын з ягоным хворым на ўсю Расію крыкам: "Што ж з намі адбываецца?" Чаму ж мне ўзгадаліся кветкі і людзі, пра якіх я напісаў? Мабыць, мяркую я, таму, што гэта ненатуральна — кветкі, што выклікаюць зласлівасць. Мабыць, гэта і супрацьчалавечна. Кветкі не могуць выклікаць нянавісць, але калі выклікаюць, дык...

Той жа тралейбус ніводнага слоўца не кінуў у абарону кветак.

Што з намі адбылося?

Навум ЦЫПІС



№ 33 23 — 29 жніўня 1997 г.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# 430 КІЛАМЕТРАЎ ВАКОЛ АДНОЙ ІДЭІ

***Газета “Культура” ўжо пісала аб праекце стварэння ў Беларусі “Залатога кольца”. Мы ізноў вяртаемся да гэтай тэмы, але ўжо з большым фактычным і практычным матэрыялам. Пад практычным маецца на ўвазе паездка па мясцінах, якія павінны ўвайсці ў адзін з тураў “Залатога кольца”. Група з дзевяці чалавек: Яўген Парфіяновіч, дарадчык нацыянальнага турыстычнага канцэрна “Белінтурыст”, кіраўнік рабочай групы па стварэнні свабоднай эканамічнай зоны “Залатое кольца Беларусі”; Юрый Акудовіч, дырэктар Інстытута турызму; Лідзія Кулажанка, Таццяна Вашкевіч, Наталля Марцынкевіч — навуковыя супрацоўнікі Цэнтра імя Ф.Скарыны; Ірына Котава, мастачка; Уладзімір Кулажанка, гісторык; Міхась Башура, рэдактар аддзела сацыяльных праблем газеты “Культура” — на мікрааўтобусе праехала 430 кіламетраў, 72 з якіх — па мясцінах Адама Міцкевіча.***



У Мінск вярталіся ўвечары, а я не мог не выкарыстаць магчымасць больш даведацца аб праекце стварэння “Залатога кольца Беларусі” і не паразмаўляць з яго стваральнікам і ініцыятарам Яўгенам Парфіяновічам.

**— Яўген, раскажыце крыху пра сябе.**

— Нарадзіўся я ў Мінску 7 лютага 1962 года. Служыў у войску ў Расіі. У 1983 годзе паступіў у Мінскі інстытут культуры на факультэт арганізацыі і методыкі культурна-асветнай працы. Пасля заканчэння з 1988 года фармальна працаваў у Дзяржынску, у гарадскім аддзеле культуры, а на самой справе актыўна займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю. За два гады змяніў восем фірмаў, нагледзеўся ўсякага і вырашыў пачаць сваю справу. Так апынуўся на Браслаўшчыне і стаў дырэктарам малога прадпрыемства “Браслаў”. Будаваў дамы і займаўся турызмам — за банкаўскі крэдыт набыў у Таліне 15 лодак і адкрыў яхт-клуб... Асноўны вынік дзейнасці — дапамога ўраду, прэзідэнту стварыць нацыянальны парк Браслаўскія азёры. А яшчэ за гэты час у мяне нарадзілася дзве дачкі.

Мяне вельмі турбаваў стан нашай культуры, дакладней, стаўленне народа да культуры. Я зразумеў, што ўсе працэсы, якія адбываюцца ў культурным жыцці, залежаць ад фундаменту культуры і падыходаў да яе. Вырашыў знайсці свой падыход — тое, што я назваў “Залатым кольцам Беларусі”.

**— Чаму менавіта кольца?**

— Таму, што гэта фігура, натхнёная вечнасцю. Другая асацыяцыя — кольца стагоддзяў, а ў гэтых стагоддзях — людзі, простыя і не вельмі простыя, у якіх шмат розных праблем. Гэта таксама кольца, людское кольца і кольца людзей у стагоддзях.

**— Чаму “Залатое кольца Беларусі”, а не, скажам, “Залатое кольца Вялікага княства Літоўскага”, бо большасць помнікаў належыць менавіта да гэтага перыяду? Гэта канчатковая назва?**

— Так, гэта канчатковая назва. А наконт першага пытання — Беларусь і Расія — гэта адна гісторыя і нельга яе дзяліць, гэтак жа як і гісторыю Заходняй Еўропы. Мы можам падзяліць сваю гісторыю з гісторыяй Кітая, але не можам правесці мяжы паміж сабой, Расіяй і Заходняй Еўропай. У Расіі ёсць “Залатое кальцо Расіі”. Назва гэтага праекта з'явілася каля 25 гадоў таму па золаце купалоў. На Беларусі не ўсё золата блішчыць. Мы сапраўды ходзім па золаце, і трэба часцей гаварыць сабе: “Глянь, беларус, на сваё золата. Не палянуйся, падымі яго”.

**— Што стала імпульсам да ўзнікнення гэтай ідэі?**

— Імпульс даў прэзідэнт леташнім загадам “Аб свабодных эканамічных зонах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь”. Ураду быў дадзены праект аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны “Залатое кольца Беларусі” турыстычна-рэкрэацыйнага тыпу. Міністэрства эканомікі за сродкі ПРААН стварыла калектыў, рабочую групу, якую я меў гонар узначальваць. Так з'явіўся гэты міні-праект.

**— Чаму міні-праект?**

— Таму што сродкі на яго выдзелены вельмі малыя — да 20 тысяч даляраў. Каб на яго далі 100 тысяч даляраў, ён быў бы вялікім. І, па-другое, таму што мы абгаварылі пакуль што толькі канцэпцыю стварэння такой зоны. Хаця праект складаецца амаль з трох тысяч старонак і шасці карт.

**— А як падбіраліся людзі для стварэння гэтага праекта?**

— Маё зацверджанне на пасаду кіраўніка рабочай групы адбывалася амаль тры месяцы. Зацвердзілі мяне першы намеснік міністра эканомікі Зайчанка і прадстаўнік ПРААН Павел Краўт. А я як кіраўнік сам падбіраў людзей і прапаноўваў іх для зацверджання, усе кандыдатуры былі ўзгоднены. Над праектам працавалі 15 чалавек, спецыялісты ў розных галінах: юрысты, гісторыкі, будаўнікі...

**— Вы павінны былі толькі стварыць гэты праект ці ажыццяўляць яго?**

— Не, толькі стварыць.

**— Значыць, ваша місія ўжо закончана?**

— Так, каля паўгода таму, калі былі пададзены ўсе дакументы. Сёння ўсё, што я раблю па праекце, — гэта мая ўласная ініцыятыва.

**— А вы па сутнасці спрабуеце намацаць шляхі да ажыццяўлення гэтага праекта, хоць афіцыйна ён не зацверджаны.**

— Так, але я спадзяюся, што афіцыйнае зацверджанне —гэта толькі справа часу.

**— Якія ў вас стасункі з Міністэрствам культуры?**

— У Міністэрства культуры мы звярталіся, яны адказвалі нам на нашыя пытанні і дапамаглі ў вырашэнні шэрагу праблем пры распрацоўцы праекта. Нас



## БЕЗ ПЯЦІ ХВІЛІН XXI СТАГОДДЗЕ

**12 жніўня ў канферэнц-зале “Белінтурыста” адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная абмеркаванню праекта “Залатое кола Беларусі”. Яўген Парфіяновіч, кіраўнік рабочай групы па стварэнні праекта свабоднай эканамічнай зоны “Залатое кола Беларусі”, патлумачыў журналістам і прадстаўнікам турыстычных арганізацый сутнасць праекта. Для наглядасці былі прадэманстраваны карты, распрацаваныя стваральнікамі праекта, і каляровыя слайды помнікаў, уключаных у яго маршруты.**

**Жывое абмеркаванне выклікала прапанова Адама Мальдзіса змяніць назву “Залатое кольца Беларусі” на “Залатое кола Беларусі”, з якой усе прысутныя ўрэшце пагадзіліся.**

**На заканчэнні сустрэчы быў заведзены старажытны гадзіннік, які сімвалізаваў пачатак адліку новага падыходу да нашай спадчыны. Справа ў тым, што лагатып “Залатога кола Беларусі” мае выгляд гадзінніка, вакол якога размешчаны гербы асноўных гарадоў, уключаных у праект. На цыферблаце пазначаны стагоддзі — ад IX (калі закладзены асновы беларускай дзяржаўнасці) і да XX. Гадзіннікавая стрэлка спынена на XX, хвілінная — на XI, атрымліваецца — без пяці хвілін XXI стагоддзе.**

### КАМЕНТАРЫЙ:

#### 1. Гісторыка

**Адам Мальдзіс, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны, прэзідэнт асацыяцыі беларусістаў:**

Прызнаюся шчыра, што спачатку я аднёсся да праекта “Залатога кола Беларусі” трохі скептычна, таму што мне падалася крыху абстрактнай яго культуралагічная частка: не ўлічваліся некаторыя факты гісторыі культуры, архітэктуры (хоць у цэлым архітэктура распрацавана добра). Яшчэ была адна падстава для скепсісу: гадоў 15 таму мы спрабавалі грамадскім чынам распрацаваць такую канцэпцыю, нават праехаліся разам з работнікамі Мінсктурыста па адным з маршрутаў.

Што мне здаецца вельмі пераканаўчым у гэтым праекце —гэта эканамічная, юрыдычная і экалагічная часткі.

Што датычыцца нейкіх дабаўленняў у сферы культуры — гэта зрабіць няцяжка, мне здаецца.

Аптымізм надае тое, што праектам апякуецца такая паважаная арганізацыя, як ААН. Гэта дае надзею, што ўсё будзе зроблена на высокім міжнародным узроўні.

Галоўнае — трэба, каб нашыя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі пераадолелі скепсіс у адносінах да турызму ў Беларусі. Некаторыя лічаць, што турызм — гэта калі мы едзем за мяжу, бо ў Беларусі няма нічога цікавага. А вось калі паездзіш з імі разам, пакажам, раскажам, тады гавораць, што ў Беларусі ёсць на што глядзець.



У нас не адно “Залатое кола” як у Расіі, у нас можа быць некалькі колаў — большых і меншых. Тут павінен быць гібкі падыход.

І самае галоўнае — трэба аб'яднаць намаганні дзяржаўных, грамадскіх, міжнародных арганізацый. Трэба рабіць не паасобку, а агульнымі намаганнямі.

#### 2. Эканаміста

**Віталь Мядзведзеў, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, акадэмік Міжнароднай інжынернай Акадэміі, старэйшы дарадчык Беларускага інстытута інфармацыі і прагнозу, доктар эканамічных навук, прафесар:**

Каб праект “Залатое кола Беларусі” стаў залатым, трэба ў яго ўкласці грошы, тады ён сапраўды прынясе дзяржаве рэальнае золата. А каб знайсці гэтыя грошы, трэба правесці агітацыйную работу сярод патэнцыяльных інвестараў, бо ў дзяржавы зараз грошай няма.

“Залатое кола Беларусі” павінна сфарміраваць і культуру эканамічную, і культуру ўласна культурную, і культуру турыстычную. І адначасова адлюстраваць культуру народа.

Гэта комплексны праект — у ім не могуць прымаць удзел толькі, скажам, турыстычныя арганізацыі ці нейкія іншыя. Тут адлюстроўваюцца інтарэсы народа — і культурныя, і ідэалагічныя, і псіхалагічныя, і гістарычныя, і эканамічныя...

Гэты праект шматбаковы, і за яго ўзяліся вялікія энтузіясты. Гэта цяжкаажыццяўляльны праект, але яго некалі патрэбна пачынаць. Я лічу, што гэты праект павінен абрастаць падпраектамі іншага характару. Калі мы гаворым аб праекце “Залатое кола Беларусі”, як аб сістэме, то падсістэма павінна быць больш разгорнутая, што Яўген Парфіяновіч зараз і робіць.

На дадзеным этапе, я лічу, дзяржава павінна ўзначаліць рэалізацыю

курыраваў Ігар Чарняўскі, першы намеснік старшыні Камітэта па рэстаўрацыі архітэктурных помнікаў.

У чым золата праекта? У тым, каб падняць культуру чалавека, а разам з чалавекам — грамадства, а разам з грамадствам —культуру грамадства.

**— Якое дачыненне да праекта мае Беларуская маладзёжная палата?**

— Па-першае — я з'яўляюся членам Прэзідыума Беларускай маладзёжнай палаты. Дарэчы, Беларуская маладзёжная палата з 1996 года мае поўнае членства ў Міжнароднай маладзёжнай палаце, якая ў сваю чаргу з'яўляецца арганізацыяй маладых людзей (перш за ўсё прадпрымальнікаў) ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. І бачыць сваю місію ў тым, каб даць моладзі максімальныя магчымасці ўдзельнічаць у жыцці грамадства. ММП налічвае каля 500 тысячаў членаў, якія належаць да 87 нацыянальных арганізацый, размешчаных больш чым у 100 краінах свету. ММП мае сваё прадстаўніцтва ў ААН, яе членамі ў свой час былі англійская каралева Елізавета, Маргарэт Тэтчэр, Рычард Ніксан, Біл Клінтан, Жак Шырак і многія іншыя вядомыя людзі.

Дык вось, я спачатку прапанаваў гэты праект Палаце, а потым пасля яго абмеркавання — Міністэрству эканомікі. Члены Палаты з іншых краін дапамагалі нам інфармацыяй у стварэнні праекта.

**Міхась БАШУРА**

# ТРЫ ДЫЯЛОГІ ПРА КІРМАШ НЕЗАПАТРАБАВАНЫХ СКУЛЬПТУР

На гэты матэрыял мяне наштурхнула гісторыя пра дзве беспрытульныя скульптуры — Францыска Скарыну і Міколу Гусоўскага, што па-сіроцку стаяць ля сценаў сталічнага Дома літаратара. Пра іх пісала ўжо беларуская прэса.

Я ж падумаў вось пра што: колькі незапатрабаваных помнікаў і кампазіцый высокай мастацкай якасці ніколі не пабачаць людзі, бо ў лепшым выпадку яны застануцца ў пылу майстэрні. Вядома, як пасля смерці некаторых творцаў іх работы былі выкінуты літаральна на сметнікі. Дык чаму так адбываецца?

* * *

Першым чалавекам, які адказаў на мае пытанні, быў пажылы скульптар згаданага вышэй помніка Францыску Скарыне Аляксандр Адашкевіч. Сустрэліся мы ў майстэрні, дзе я мог пабачыць многія эскізы і працы мастака.

**— Спадар Аляксандр, а хто заказваў скульптуру Скарыны?**

— Францыска Скарыну замаўляла адна беларуская школа. Гадоў дзесяць таму. Абяцалі заплаціць семь тысяч рублёў. У тыя часы гэта былі вялізныя грошы. Я зрабіў скульптуру і два барэльефы. І тут пачалася інфляцыя... сем тысячаў імгненна ператварыліся ў нічога не вартыя паперкі. Наша дамова са школай развалілася.

**— Я гляджу, што ў вас тут ёсць і другая скульптура Скарыны, і на падыходзе яшчэ адна. Новыя заказы?**

— Ад гэтых ужо таксама адмовіліся. Прычына — няма сродкаў. Людзі, якія іх заказвалі, зрэдчас да мяне заходзяць. Паглядзяць, паглядзяць, скажуць, што добра зрабіў, і паскардзяцца на нястачу грошай.

**— У многіх скульптараў не забіраюць заказаныя працы?**

— Я на пенсію як пайшоў, дык амаль не хаджу па майстэрнях...

**— А вы ведаеце, хто рабіў Міколу Гусоўскага, які знаходзіцца ля Дома літаратара? Бо там, пабач, і ваша праца.**

— Гэта, мабыць, дыпломная праца. А хто яе рабіў — не ведаю.

**— А для душы робіце нешта?**

— Цяпер вельмі рэдка. Бо матэрыял — бронза, медзь — каштуюць сёння вялізных грошай.

* * *

Сакратар Саюза мастакоў Святлана Гарбунова сустрэлася са мной не ў майстэрні — ва ўтульным кабінеце. Таму калі нам нешта і перашкаджала размаўляць, дык толькі званкі тэлефона.

**— Вельмі часта адмаўляюцца ад заказаў?**

— На шчасце, са мной гэткага пакуль не здаралася. Падобнае, канечне, існуе сёння. Бываюць і іншыя сітуацыі. Да прыкладу, не так даўно ў Віцебску праходзіла выстава скульптур. Былі спадзяванні, што знойдзецца заказчык. Але яны не спраўдзіліся. Цяпер з заказамі цяжка — іх амаль няма. Раней, у савецкія часы, скульптарам жыць было прасцей. Калі не было грошай, зараблялі на скульптурах Леніна. Некаторыя мастакі толькі за гэта і жылі. Праўда, пасля іх называлі ленінцамі. Вось падобным ленінцам жыць цяпер вельмі цяжка.

**— А для душы нешта робіце?**

— У пластыліне. Як кажуць — для лепшых часоў. Бо каб перавесці працу ў нармальны матэрыял — патрэбныя грошы. У гэтым плане жывапісцам нашмат лягчэй. І купляюць іх працы лепш. Таму апошнім часам многія скульптары пачынаюць сур'ёзна займацца жывапісам, графікай, акварэллю. Як, скажам, старшыня Саюза Генадзь Буралкін. Яго апошняя выстава складалася з графічных прац, там было ўсяго некалькі скульптур. Я лічу, што творчая асоба заўсёды знойдзе выйсце — не адзін варыянт, дык другі. Але падобныя праблемы, канечне, не вельмі спрыяюць развіццю айчыннай скульптуры.

**— А што вы можаце сказаць пра скульптуры Міколы Гусоўскага і Францыска Скарыны, што пастаўлены каля Дома літаратара? Ці можна было б іх усталяваць як помнікі?**

— У свой час усталяваць гатовую працу было нашмат прасцей. Нешта падобнае атрымалася з маім Сымонам Будным. Я запрапанавала для помніка ўжо гатовую працу. Грошай мне не заплацілі, бо яе я перадавала як падарунак. Праўда, патрабавалася яшчэ фармоўка і адліўка. На мой погляд, было б няблага, каб названыя вамі працы знайшлі свой годны прытулак.

* * *

У майстэрні скульптара Мікалая Кандрацьева можна знаходзіцца гадзінамі — трапляеш у нейкае казачнае жыццё. Узнікаюць розныя фантастычныя думкі, ідэі, вобразы.

**— Спадар Мікалай, вы як — выконваеце нейкія заказы?**

— Ад дзяржавы заказаў няма. А што сёння для скульптара прыватныя заказы? Гэта — надмагільныя помнікі. Для мяне зрабіць надмагілле цяжкая праца. На жаль, жыццё прымушае гэта рабіць. І справа не ў тым, што цяжка ляпіць. Я вельмі люблю займацца партрэтамі. Але тут даводзіцца дакранацца да чужога гора, прапускаць яго праз сябе. Асноўная колькасць заказчыкаў хоча, каб нябожчык на партрэце выглядаў як жывы. А гэта немагчыма. І тады пачынаюцца папрокі, патрабаванні.

**— Цяпер вельмі цяжка рабіць для душы?**

— Так. У сённяшнія часы творчыя людзі вельмі пакутуюць на ўсялякія цяжкасці. Не апошнюю ролю адыгрываюць і грошы. Раней, да перабудовы, было нашмат лягчэй. Цяпер фармоўка, адліўка — дарагія рэчы. Кожны выжывае як можа. Я таксама не здаюся — мая праца не спыняецца. У мяне існуюць грандыёзныя творчыя планы, якія я хачу выканаць, нягледзячы на ўсе недарэчнасці жыцця. Я рыхтуюся да выставы, якая адбудзецца ў 2000-м годзе, гэта будуць два юбілеі — мне споўніцца 75 і 55 гадоў з дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Планы сур'ёзныя. Я хачу прадставіць зусім новыя свае працы. Дарэчы, раней, у савецкія часы, скульптуры, зробленыя з бронзы, медзі, мармуру, дрэва доўга не затрымліваліся ў майстэрнях мастакоў. А цяпер у мяне ёсць каля дваццаці прац з бронзы, ёсць працы з дрэва, шмат графікі. Не трэба забывацца на вечнае.

* * *

Аналізуючы гэтыя тры невялікія размовы, я прыходжу да высновы, што скульптуры, кінутыя ля Дома літаратара, сімвалізуюць сёння агромністы пласт праблемаў. Зразумела, што ў краіне існуе спецыяльная камісія Міністэрства культуры Беларусі, якая кантралюе гэты працэс. Існуюць, у рэшце рэшт, пэўныя законы, якія забараняюць грамадзянам самавольна чапляць на дамы ўсялякія шыльды і ўзводзіць у скверах і парках помнікі.

Ну а што рабіць тым скульптарам, якім дзяржзаказы не даваліся або іх працы не былі выкуплены заказчыкамі? Вядома, што менавіта скульптарам-манументалістам найбольш цяжка паказаць свае творы на выставе. Нават той жа каляровы фотаздымак шырокага фармату з выявай помніка каштуе шалёных грошай. Але ж зразумела, што творцы вельмі важна, каб яго творы хоць аднойчы пабачыў шырокі глядач і той, хто зробіць замову.

І вось тут мне падумалася: а чаму б Саюзу мастакоў разам з міністэрствам культуры, з гарадскімі і раённымі ўладамі не паспрабаваць наладзіць зусім, здавалася б, нечаканае мерапрыемства, якое ніхто і ніколі не праводзіў? Я маю на ўвазе нешта кшталту выставы-кірмашу пад адкрытым небам, якую можна праводзіць раз на год. Тут жа могуць экспанавацца і рабочыя мадэлі будучых помнікаў і камерных садова-паркавых кампазіцый. Упэўнены, што заказчыкі — айчынныя, а мо і замежныя, абавязкова знойдуцца.

**Сустракаўся са скульптарамі
Зміцер ВОЛКАЎ**

праекта і прыцягнуць да яго ўвагу інвестараў і розных міжнародных арганізацый (ПРААН з пачатку падключылася да праекта), а таксама распачаць працу ў накірунку папулярызацыі дадзенага праекта.

### *3. Культуролага*

**Іржы Кунфт, доктар кафедры культуралогіі і філасофіі Карлава Універсітэта ў Празе:**

Ва ўсім свеце здаўна выкарыстоўваюцца гістарычна каштоўныя аб'екты ў турыстычнай інфраструктуры. Гэта абумоўлена тым, што разам з мастацка-гістарычнымі і эстэтычнымі каштоўнасцямі кожны шэдэўр мае і сваю прыкладную каштоўнасць, таму выкарыстанне яго ў рамках турызму дае надзейную крыніцу фінансавання яго ўтрымання, рамонту і рэканструкцыі.

Пры рэалізацыі праекта "Залатое кола Беларусі" па выкарыстанні гістарычных аб'ектаў неабходна памятаць пра тое, што асноўная мэта — захаванне помнікаў і падключэнне іх да жыцця ў такім аб'ёме і якасці, якія адпавядаюць каштоўнасці, стану і прызначэнню дадзенага помніка. Гэта значыць, што неабходны клопат пра тое, каб праграма выкарыстання помнікаў была канцэптуальнай і не была гвалтоўна выкарыстана ў няправільнай форме. Ад помніка нельга патрабаваць быць толькі дэкарацыяй, стваральнікам гістарычнага рамантызму, але ўмела ўзяць ад яго ўсе культурныя і мастацкія каштоўнасці.

Праца спецыялістаў, якія прымалі ўдзел у распрацоўцы асобных частак праекта, высока прафесійная і сведчыць аб вялікай зацікаўленасці. Гэта дае надзею на жыццяздольнасць праекта.

**Міхась БАШУРА**



**Пералік матэрыяльных нерухомых гісторыка-культурных каштоўнасцей, што перадаюцца ў аператыўнае кіраванне Адміністрацыі сацыяльна-экалагічнага запаведніка "Залатое кола Беларусі" ў межах іхніх зон аховы.**

**БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Палацава-паркавы комплекс, г/п Косава, Івацэвіцкі раён.
2. Сядзібна-паркавы комплекс, вёска Мерацаўшчызна (сядзіба Тадэвуша Касцюшкі), Івацэвіцкі раён.
3. Картэзіянскі кляштар, г.Бяроза.
4. Палацавы комплекс, г/п Ружаны, Пружанскі раён.

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

5. Палацава-замкавы комплекс, вёска Гальшаны, Ашмянскі раён.
6. Ансамбль кляштара францысканцаў, вёска Гальшаны, Ашмянскі раён.
7. Палацава-замкавы комплекс, г/п Мір, Карэліцкі раён.
8. Замак, г.Навагрудак.
9. Сядзібна-паркавы комплекс "Альберцін", г.Слонім.
10. Палацава-паркавы ансамбль, вёска Шчорсы, Навагрудскі раён.
11. Замак, вёска Крэва, Смаргонскі раён.

**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

12. Палацава-паркавы комплекс "Нясвіж", парк "Альба", г.Нясвіж.
13. Былыя кляштарныя карпусы комплексу кляштара іезуітаў, г.Нясвіж.
14. Беларускі Дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, вёска Азярцо, Мінскі раён.
15. Замчышча, г/п Свір, Мядзельскі раён.

**МІНСК**

16. Сядзібна-паркавы комплекс "Лошыца".
17. Культурна-дзелавы комплекс "Пярэспа" (былая бісквітна-паліграфічная фабрыка, вул.Камуністычная).

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

18. Успенскі кляштар. вёска Пустынкі, Мсціслаўскі раён.
19. Мазалоўскі кляштар, г.Мсціслаў.
20. Ануфрыеўскі кляштар, г.Мсціслаў.

* * *

**Пералік тэрыторый, што перадаюцца ў веданне Адміністрацыі сацыяльна-экалагічнага запаведніка "Залатое кола Беларусі", у межах зон аховы, якія адносяцца да наступных матэрыяльных нерухомых гісторыка-культурных каштоўнасцяў**

**ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Сафійскі сабор, г.Полацк.
2. Гістарычны цэнтр, г.Паставы.
3. Гістарычны цэнтр, г.Браслаў.

**ВІЦЕБСК**

4. Богаяўленская царква.
5. Касцёл святога Андрэя, г.Слонім.
6. Жыровіцкі кляштар базыліян, Успенскі сабор, вёска Жыровічы, Слонімскі раён.

**ГРОДНА**

7. Комплекс Старога замка.

**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

8. Касцёл бернардзінцаў, г/п Будслаў, Мядзельскі раён.
9. Комплекс кляштара кармелітаў, г.Мядзель.

МІНСК

10. Гістарычныя забудовы "водна-зялёнага дыяметра г.Мінска": "Верхні горад", "Ракаўскае прадмесце", "Траецкае прадмесце", "Замчышча", "Славянскі дол".

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

11. Царква Аляксандра Неўскага, г.Мсціслаў.

* * *

**Пералік былых вайсковых гарадкоў у існуючых межах, што перадаюцца ў аператыўнае кіраванне Адміністрацыі сацыяльна-экалагічнага запаведніка "Залатое кола Беларусі"**

**ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. "Касцяні", Пастаўскі раён.
2. "Цяшэлава", Пастаўскі раён.
3. "5-гарадок", Пастаўскі раён.
4. "Варапаева", Пастаўскі раён.
5. "Віцебск Паўночны", г.Віцебск.
6. "Ветрына", Полацкі раён.

* * *

**Пералік зарэзерваваных тэрыторый для стварэння асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый і аб'ектаў, а таксама асабліва ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі і зоны адпачынку ў існуючых межах, што перадаюцца ў аператыўнае кіраванне Адміністрацыі сацыяльна-экалагічнага запаведніка "Залатое кола Беларусі"**

**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

1. Нацыянальны парк "Нарачанскі", Мядзельскі раён.
2. Нацыянальны парк "Белая Русь", Лагойскі раён.
3. Ландшафтны заказнік "Селява", Крупскі раён.
4. Зона адпачынку "Мінскае мора", Мінскі раён.

**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

5. Нацыянальны парк "Свіслацка-Бярэзінскі", Асіповіцкі і Крычаўскі раёны.

* * *

**Пералік водных аб'ектаў (вадаёмаў), што перадаюцца ў адасобленае карыстанне Адміністрацыі сацыяльна-экалагічнага запаведніка "Залатое кола Беларусі" разам з прыбярэжнымі палосамі (зонамі), якія далучаюцца да іх.**

**ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

Лепельскі раён — 2 возеры агульнай плошчай 219 га, у тым ліку:

воз.Вогзіна — 67 га;
воз.Урода — 152 га.

Полацкі раён — 2 возеры агульнай плошчай 924 га, у тым ліку:

воз.Суя — 154 га;
воз. Янава — 770 га.

Ушацкі раён — 7 азёр агульнай плошчай 4 123 га, у тым ліку:

воз. Бярозаўскае — 490 га;
воз. Вяркудскае — 180 га;
воз. Атолава — 820 га;
воз. Паульскае (Цетча) — 845 га;
воз. Палазер'е — 800 га;
воз. Чорная Урода — 53 га;
воз. Чарсцвяцкае — 935 га.

Усяго 11 азёр агульнай плошчай 5 286 га.

* * *

**Пералік зарэзерваваных тэрыторый для будаўніцтва гідраэлектрастанцый сярэдняй магутнасці, што перадаюцца ў аператыўнае кіраванне Адміністрацыі сацыяльна-экалагічнага запаведніка "Залатое кола Беларусі"**

1. Віцебская вобласць (рака Заходняя Дзвіна, месцы плануемага будаўніцтва ГЭС):

— г.Віцебск (вышэй за г.Віцебск у раёне ўпадзення ракі Лужасянкі);
— г.Бешанковічы (вышэй за г.Бешанковічы ў раёне ўпадзення ракі Крывінкі);
— г.Полацк (на 3 км вышэй за г.Полацк);
— г.Верхнядзвінск (на 4 км ніжэй за ўпадзенне ракі Сар'янкі).

2. Гродзенская вобласць (рака Нёман, месца плануемага будаўніцтва ГЭС):

— г.Гродна (7 км вышэй за г.Гродна);
— вёска Немнава (8 км вышэй за ўпадзенне ракі Чорная Ганьча).

# КУЛЬТУРА
ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

## ПАЛЕССЕ ПЛЮС-МІНУС ШЭСЦЬДЗЕСЯТ

З 14 жніўня па 20 верасня ў Мінску ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры праходзіць фота-этнаграфічная выстава "Палессе, якое мы не ведаем". Яна арганізавана пасольствам Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, Консульствам Рэспублікі Польшча ў Брэсце, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускім інстытутам праблем культуры, Кафедрай этналогіі і антрапалогіі Варшаўскага універсітэта і прысвечана 60-годдзю даследавання Палесся польскім этнасацыёлагам Юзафам Амбрэмбскім.


*Юзаф Абрэмбскі з дзяўчатамі з Гарыздрыч у Кобрынскім павеце, 1934.*

Праз 60 гадоў пасля таго, як выбітны польскі навуковец Юзаф Амбрэмбскі павандраваў са сваім фотаапаратам па Палессі і сабраў унікальныя матэрыялы аб жыцці палешукоў, выкладчыца Варшаўскага універсітэта Ганна Энгелькінг, аўтар выставы, разам са сваімі студэнтамі зноў прайшлася яго шляхам. Таму экспазіцыя выставы складаецца з двух элементаў: чорна-белыя фотаздымкі 30-х гадоў і каляровыя — 90-х. Але часам падаецца, што старыя фотаздымкі былі проста расфарбаваныя пэндзлем таленавітага мастака. Сучасная экспедыцыя старалася выявіць і захаваць на фотастужцы тое самабытнае, каштоўнае, што вылучае Палескі рэгіён. Тут можна ўбачыць архаічныя прылады працы і побыту, старажытныя пабудовы, людзей у нацыянальных строях, увогуле можна адчуць той своеасаблівы патрыярхальны лад жыцця палешукоў. Але вось менавіта гэтае і не спадабалася аднаму кобрынскаму чыноўніку: яго бульдозерныя аргументы, што Палессе нельга паказваць без трактара і уазіка старшыні калгаса, ніякія навукова-пазнавальныя прынцыпы, закладзеныя ў выставе, пераадолець не змаглі.

І ўсё ж такі, акрамя Кобрына выстава з поспехам пабывала ў Брэсце, Пінску. Застаецца спадзявацца, што кобрынскі казус не паўторыцца ў Мінску, бо надта ўжо давялося б чырванець перад высокімі асобамі, якія адкрывалі выставу. А сярод іх былі саветнік Польскай амбасады Станіслаў Гурчыньскі, інспектар Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Вечар, прафесар, доктар гістарычных навук Адам Мальдзіс, былы пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, прафесар, доктар філалагічных навук спадарыня Эльжбета Смулкова, якая, у прыватнасці, сказала, што па заканчэнні яе паўнамоцтваў у якасці пасла Польшчы ў Беларусі яна будзе выконваць іншую пачэсную функцыю — пасла беларускай культуры ў Польшчы, тым больш, што з 1 верасня яна будзе ўзначальваць кафедру беларускай культуры ўжо самастойнага Беластоцкага універсітэта.

**С.М.**

*P. S: Хацелася б дадаць, што ў дзень адкрыцця выставы "Палессе, якое мы не ведаем" у Мінску завяршылася этна-лінгвістычная экспедыцыя па даследаванні Браслаўшчыны, якую праводзіла сама спадарыня Эльжбета Смулкова, але ўжо з выкладчыкамі і студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Магчыма, адкрыццё выставы "Палессе, якое мы не ведаем" — гэта пачатак новай традыцыі азнаямлення шырокай грамадскасці з найцікавейшымі матэрыяламі падобных навуковых экспедыцый...*

*Свеніцца, Лунінецкі павет:Два вяскоўцы.*


## ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ!

Можа, крыху састарэлым падаецца сёння тэзіс аб выхаванні гарманічнага чалавека, але рэчаіснасць дае нам жорсткія і балючыя факты, як разам з гармоніяй душы мы страчваем гармонію і ў эканоміцы, і ў палітыцы. Вось чаму кола пытанняў, якія абмяркоўваліся на Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі "Культурная сфера вольнага часу: стан, праблемы, пошукі", праведзенай Беларускім інстытутам праблем культуры, прама ці ўскосна закранаюць пытанні стварэння магчыма спрыяльных умоў для духоўнага ўзбагачэння чалавека.

Што ўяўляе сабой сённяшні стан культурнай дзейнасці ў вольны час? Якія накірункі работы варта больш шырока выкарыстоўваць спецыялістам? Што рабіць установам культуры ў сітуацыі сацыяльна-эканамічнай нестабільнасці? Каму патрэбен сёння так званы клубны работнік?

Адказы на гэтыя і іншыя пытанні арганізацыі культурнай сферы вольнага часу склалі змест зборніка тэзаў па выніках канферэнцыі, які выпусціў БелІПК.

Тэзы змяшчаюць разважанні спецыялістаў — практыкаў ад шматлікіх культурных устаноў і арганізацый рэспублікі і замежжа — аб шляхах і перспектывах развіцця клубных устаноў на Беларусі; разглядаюцца асновы рэгіянальнай культурнай палітыкі ў сучасных умовах, а таксама сацыяльна-педагагічныя аспекты арганізацыі вольнага часу розных груп насельніцтва.

Выданне адрасавана кіраўнікам устаноў і прадпрыемстваў культуры, выкладчыкам культуразнаўчых дысцыплін спецыяльных устаноў, усім, хто працуе ў сферы культурнага забеспячэння вольнага часу насельніцтва.

Хутка ўбачаць свет яшчэ два цікавыя выданні Беларускага інстытута праблем культуры, што адлюстроўваюць некаторыя аспекты арганізацыі вольнага часу.

Добрым рэпертуарна-метадычным дапаможнікам для клубных работнікаў уяўляецца зборнік гульнёва-забаўляльных праграм, паказаных удзельнікамі Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства арганізатараў вольнага часу, так званых культарганізатараў. Дадзеная праца складаецца з дваццаці сцэнарыяў і каментарыяў да іх. Думаецца, што зборнік стане адной з нешматлікіх спроб абагульніць існуючы вопыт у галіне драматургіі гульнёва-забаўляльнай дзейнасці.

***

Знаходзіцца ў друку зборнік твораў для аркестра народных інструментаў "Жураўліная песня". Змест яго складаюць творы і апрацоўкі беларускіх мелодый кампазітараў Генадзя Гармачэнкава, Вячаслава Кузняцова, Аляксандра Кавалёва. Уключаныя ў зборнік творы вызначаюцца сваёй арыгінальнасцю і цікавай інструментоўкай. Зборнік будзе карысным як для самадзейных, так і прафесійных аркестраў і ансамбляў народных інструментаў, фальклорных калектываў, мастацкіх вучэльняў і інш.

Беларускі інстытут праблем культуры чакае спажыўцоў вышэйпазначанай і іншай рэпертуарна-метадычнай літаратуры, падрыхтоўка і выданне якой з'яўляецца адным з прыярытэтных накірункаў дзейнасці інстытута, па адрасу: г.Мінск, вул. Каліноўскага, 12.

**Іна ПЫЖ,**
**старшы навуковы супрацоўнік БелІПК**

## СЕЗОН ЗАКОНЧАНЫ. ВІТАЕМ НОВЫ СЕЗОН!

*Жнівень — апошні месяц тэатральнага міжсезоння. З чым, з якімі набыткамі падыходзяць нашыя тэатры да пачатку сваёй працоўнай пары? Што імі было дасягнута, і чым яны могуць нас, гледачоў, у будучым парадаваць?*

*З начальнікам аддзела тэатраў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь* ***Вадзімам ДАПКЮНАСАМ*** *размаўляе наш спецыяльны карэспандэнт* ***Сяргей МІНСКЕВІЧ****.*

**— Як Вы ацэньваеце мінулы тэатральны сезон? Што зроблена, якія вынікі?**

— 1997 год для нас выдаўся даволі напружаным. Гэтак склалася, што мы павінны былі правесці тры тэатральныя фестывалі. У сакавіку прайшоў рэспубліканскі фестываль "Маладзечанская сакавіца", у маі ў Гомелі адбыўся міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы", зараз рыхтуецца яшчэ да аднаго міжнароднага фестывалю "Белая вежа-97", які пройдзе ў Брэсце з 2-га па 5-е кастрычніка. У ім возьмуць удзел каля 20-ці тэатраў драмы і лялек з блізкага і далёкага замежжа і, безумоўна, з Беларусі. Ацэньваючы мінулы сезон, трэба адзначыць самаадданую працу нашых творцаў. Заўважаецца ўздым творчай адказнасці, творчага натхнення, творчых пошукаў нашых рэжысёраў, артыстаў, мастакоў, якія працуюць сёння ў тэатры. Дарэчы, гэта падкрэсліў міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы". Як нашай крытыкай, так і замежнай яму была дадзена высокая адзнака. Нават параўноўвалі з лепшымі ўзорамі тэатральных фестываляў іншых краін. Каб пацвердзіць высокі мастацкі ўзровень нашых творцаў, мне хацелася б спаслацца на апошнія прэм'еры, якімі завяршылі сезон нашыя тэатры: у Дзяржаўным акадэмічным рускім тэатры імя Горкага — гэта славутая п'еса Янкі Купалы "Раскіданае гняздо" ў пастаноўцы Барыса Луцэнкі; у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — п'еса Алеся Дударава "Князь Вітаўт" у пастаноўцы Валерыя Раеўскага; у Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа — п'еса Васіля Быкава "Пакахай мяне, салдацік" у пастаноўцы Валерыя Маслюка. Так што можна з задавальненнем адзначыць, што сезон закончыўся добрымі здабыткамі.



**— Якія прэм'еры адбудуцца ў наступным сезоне?**

— У наступным сезоне нас чакаюць не менш значныя прэм'еры: пастаноўка ў Рускім тэатры шэкспіраўскага "Гамлета". Там жа плануецца паказ новай работы рэжысёра Валянціны Ераньковай — казкі для дзяцей "Зачараванае гарышча" паводле твораў Чукоўскага. Аналізуючы рэпертуар тэатраў, нельга не заўважыць зварот тэатраў да беларускай і сучаснай класікі. Гэта агульны накірунак, які тычыцца не толькі нашых рэспубліканскіх тэатраў, але і абласных. На наш погляд і на погляд крытыкі, у гэтым сезоне ў Гомелі была даволі ўдала пастаўлена Рыдам Таліпавым "Чайка" Антона Чэхава.

Хаця тэатр Янкі Купалы сваім прэм'ерным спектаклем "Князь Вітаўт" і парушыць сёлета традыцыю — менавіта ім распачне новы сезон, а не як заўсёды купалаўскай "Паўлінкай", бо маюцца складанасці з дэкарацыямі, але класікі ў яго рэпертуары не паменшае, хутчэй наадварот, бо рыхтуецца спектакль па п'есе драматурга Уладзіміра Бутрамеева. Ён напісаў п'есу паводле аповесці Дастаеўскага "Сяло Сцяпанчыкава". А глядач ведае Уладзіміра Бутрамеева па п'есе "Страсці па Аўдзею". Маладыя рэжысёры Дзмітрый Марынін і Дзмітрый Саладуха працуюць над спектаклем па творах Еўсігнея Міровіча; выпускніца Беларускай акадэміі мастацтваў рэжысёр Наталля Башава працуе над казкай "Карлік Нос" — гэта будзе м'юзікл для дзяцей і падлеткаў. У новым сезоне купалаўцы са спектаклем "Крывавая Мэры" паедуць на фестываль у Харкаў, Санкт-Пецярбург, у Польшчу, а іх жа спектакль "Чароўная ноч" Мрожака ў цудоўным выкананні Філатава і Падабеда будзе прадстаўлены на фестывалі "Белая вежа". Таксама напружана працуе ТЮГ, і неўзабаве адбудзецца прэм'ера спектакля паводле п'есы Карла Гоцы "Шчаслівыя жабракі". Спектакль рыхтуе Мікалай Шайко, які працаваў у свой час у гэтым тэатры, а цяпер працуе ў МХАТ імя Чэхава. А яшчэ тэатр сустрэнецца з цікавым і вядомым рэжысёрам з Масквы Уладзімірам Салюком у працы над п'есай Сафокла "Антыгона". Напрыканцы календарнага года, як звычайна, ТЮГ рыхтуе для самых маленькіх гледачоў навагоднае прадстаўленне, над якім будзе працаваць вядомы артыст і рэжысёр Юрый Вута.

**— Чым, на вашу думку, будзе адметны наступны сезон?**

— Наступны сезон будзе нагружаны мерапрыемствамі і юбілейнымі датамі. 16 і 17 лістапада ў Гродне пройдуць мерапрыемствы з нагоды 50-годдзя Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. У

# ВІРТУОЗЫ КАНТРАБАСА

Не так даўно ў Малдавіі адбыўся Міжнародны конкурс імя Яўгена Кокі. У ім бралі ўдзел нашы беларускія піяністы, струннікі і кантрабасісты. Група кантрабасістаў — вучняў музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі — асабліва вылучаліся на малдаўскім конкурсе віртуознасцю выканання і атрымалі самыя высокія адзнакі міжнароднага музычнага спаборніцтва.

Прадэманстраваў высокае майстэрства ігры на кантрабасе вучань дзевятага класа ліцэя Андрэй Шынкевіч. Яму не было роўных у валоданні гэтым інструментам. Андрэй заняў першае месца. Другое заняў Пётр Хіменак — таксама навучэнец музычнага ліцэя, які нядаўна стаў студэнтам Акадэміі музыкі, трэцяе месца "сталася нашым", яно прысуджана журы студэнту Акадэміі музыкі Пятру Шайтэру. Разам са сваімі выхаванцамі хвіліны радасці і творчага ўзлёту перажыў іх педагог Мікалай Аляксеевіч Крывашэеў; спецыяльным дыпломам конкурсу ўзнагароджана канцэртмайстар Марына Федарчук, якая выступала як акампаніятар кантрабасістам.

Застаецца дадаць, што праграма, якую выконвалі нашы маладыя музыканты на конкурсе, была даволі складанай: на першым туры ўдзельнікі ігралі "абавязковыя" эцюды без суправаджэння фартэпіяна і іншыя музычныя п'есы, а на другім туры прагучалі творы розных кампазітараў і п'еса кампазітара з Малдовы Алега Негруцы. Нашы віртуозы-кантрабасісты ўключылі ў сваю праграму творы беларускіх кампазітараў Вячаслава Кузняцова і Ларысы Мурашкі і бліскуча выканалі іх.

**Алена РЫГОРАВА**

# КРЫМ'97

Сёлета ў чэрвені бібліятэчная праграма Беларускага Фонду Сораса і праграма рэгіянальных бібліятэк Фонду Сораса аказалі фінансавую падтрымку супрацоўнікам Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэкі, каб яны маглі ўзяць удзел у IV міжнароднай канферэнцыі "Крым'97" па тэме: "Бібліятэкі і асацыяцыі ў зменлівым свеце: новыя тэхналогіі і новыя формы супрацоўніцтва", што праходзіла ў Крыму, у Судаку.

Гэтая канферэнцыя з'явілася самай прадстаўнічай за апошнія гады паводле складу ўдзельнікаў, сабраўшы вядучых спецыялістаў у галіне інфармацыйна-бібліятэчнай справы з далёкага і блізкага замежжа. У канферэнцыі ўзялі ўдзел больш за 700 спецыялістаў з 35 краін. Праграма канферэнцыі адлюстравала надзвычай актуальныя для бібліятэк краін, што развіваюцца, праблемы, асабліва па пытаннях тэхналагічнага адставання ад развітых краін-вытворцаў інфармацыйных рэсурсаў, аўтаматызацыі інфармацыйна-бібліятэчнай справы, міжнароднага інфармацыйнага супрацоўніцтва.

# УДАЛЫ ДЭБЮТ

*"Няхай натхняе вас у гэтай вайне мужны вобраз нашых вялікіх продкаў Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога, Кузьмы Мініна, Дзмітрыя Пажарскага, Аляксандра Суворава, Міхаіла Кутузава."*

*І.Сталін*

І яны натхнялі у прамым і пераносным сэнсе, бо многія з ордэнаў, уведзеных у гады вайны, мелі імёны знакамітых палкаводцаў мінулага — Аляксандра Неўскага, Суворава, Кутузава, Ушакова, Нахімава, Багдана Хмяльніцкага. Невыпадкова тагачасныя кіраўнікі СССР звярнуліся да гісторыі, якую да гэтага не надта паважалі, бо такія ўзнагароды, што меліся да вайны, былі, калі можна так казаць, вельмі палітызаваныя і безасабовыя — Леніна, Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Знак Пашаны. Ішла айчынная вайна, і назва ўзнагарод павінна была адпавядаць ёй. "Першай ластаўкай" быў ордэн Айчыннай вайны першай і другой ступеняў. За ім нарадзіліся чыста генеральскія і адміральскія ордэны Суворава, Кутузава, Ушакова, Нахімава. Мужнасць і доблесць афіцэраў пачалі адзначаць ордэнам Аляксандра Неўскага, а ордэнам Славы, які капіраваў калі не па выгляду, дык па сутнасці царскі "Георгій", — радавых і сяржантаў. Выключнасць ордэна Айчыннай вайны была ў тым, што яго маглі заслужыць і радавыя байцы, партызаны, падпольшчыкі, і афіцэры, і генералы, а галоўнае, што атрымаць яго можна было толькі на адной вайне, той, што ішла тады. На жаль, некалькі гадоў таму ўсім без выключэння ветэранам далі яго, хаця іх унёсак у перамогу (пры ўсёй нашай павазе да ветэранаў) быў розным, а ордэн, тым болей такі, — гэта не юбілейны медаль ці значок. Зразумела, што вытокі непавагі да франтавых узнагарод пачаліся не з гэтай акцыі, а тады, калі былы палітработнік, а потым кіраўнік дзяржавы пачаў абвешваць свае грудзі Зоркамі Героя і Перамогі. Але я крыху адхіліўся ад тэмы артыкула.



13 жніўня, на трэцім паверсе музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстава ордэнаў і медалёў, уведзеных для ўзнагароды франтавікоў 55 гадоў таму. На яе адкрыццё сабраліся ветэраны вайны, кіраўніцтва музея і яго навукоўцы, прадстаўнікі Міністэрства культуры, наведнікі, сярод якіх была і невялікая група вайсковых будаўнікоў. На мой погляд, маладых людзей у пагонах магло б быць і значна болей. На жаль, інфармацыю аб выставе я нідзе ў горадзе не убачыў, але гэта можна тлумачыць толькі адсутнасцю сродкаў у музея.

Выставу адкрыў дырэктар музея Г.І.Баркун, паведаміўшы наведнікам аб гісторыі стварэння ўзнагарод, памянуўшы і нашых славутых землякоў — Красоўскага і Халасцякова...

Апошняй, прыкметна хвалюючыся, гаварыла "гаспадыня" выставы, малодшы навуковы супрацоўнік Людміла Калеснічэнка. Гэта быў яе дэбют, першая падрыхтаваная ёю выстава.

Я не маю магчымасці ў газетнай публікацыі апісаць усё, што ўбачыў, але на адзін экспанат звярнуў асаблівую ўвагу. Побач з рэдкім медалём "За абарону Адэсы", якім са шматмільённай арміі было ўзнагароджана толькo 30 тыс.чалавек (медаль у фондах музея знаходзіцца ў адзіным экземпляры), вісіць шэрая картка, дзякуючы якой жыхары акружанай Адэсы маглі набыць поўвядра вады. Цікавых дакументаў і экспанатаў на выставе шмат, але лепш усе гэта ўбачыць уласнымі вачыма.

Мне ж хацелася б прывесці словы Людмілы Мікалаеўны ў адказ на маё пытанне і здзіўленне тым, што маладая жанчына захапілася гэтай тэмай.

— Першапрычынай таго, што прымусіла ўзяцца за стварэнне выставы, з'яўляецца стаўленне некаторай часткі нашых суайчыннікаў да франтавых узнагарод. Сэрца крывёй абліваецца, калі бачыш, як імі гандлююць на рынках. Ёсць, праўда, і іншыя прыклады. Так, зусім нядаўна малады чалавек, адмовіўшыся назваць сваё прозвішча, зайшоў у музей і пакінуў у падарунак выкуплены на Камароўцы ордэн Айчыннай вайны і сказаў, што месца ордэну толькі ў нас.

Да нашай гаворкі далучыўся Герой Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Бардаваў.

— На рынках ідзе гандаль не ўзнагародамі, а нашай славай, нашым потам, боллю і крывёй. На маю думку, гэта справа —крымінальная, але ўлады і праваахоўныя органы глядзяць на такі "гандаль" скрозь пальцы. Крыўдна гэта бачыць, тым больш што такія "захапленні" прама пераходзяць у злачынства. Справа дайшла да таго, што ў некалькіх Герояў Савецкага Саюза, у тым ліку гераіні беларускага народа Марыі Осіпавай, скралі Зоркі Героя. Вось вам і стаўленне да сваіх герояў. Караць трэба за гэта жорстка. А выстава, на якой мы зараз былі, — справа неабходная. Я нават унука з сабой прывёў.

**Уладзімір МІХАЛЬЦОЎ**

**Фота Аляксандра БАЧЫЛЫ**



межах гэтага свята адбудзецца міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская сцэнаграфія: пошукі, праблемы ў кантэксце Еўрапейскага тэатра". У лістападзе ў Бабруйску пройдуць святочныя мерапрыемствы да 190-х угодкаў з дня нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, драматурга, зачынальніка беларускага тэатра.

**— Калі ласка, раскажыце пра гастрольную дзейнасць нашых тэатраў.**

— Шчыра кажучы, сёлета, упершыню за апошнія пяць гадоў, нам удалося ў поўнай меры падтрымаць тэатры ў іх гастрольнай дзейнасці. Так ужо склалася, што з прычыны адсутнасці ўласных фінансавых сродкаў тэатры амаль не мелі магчымасцяў выязджаць на гастролі. Я проста хачу парадавацца, што Міністэрства культуры па дзяржаўным заказе прафінансавала гастролі Брэсцкага тэатра ў Гомелі, Гомельскага тэатра ў Брэсце, двухтыднёвыя гастролі ў Мінску Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра ў сувязі з яго пяцідзесяцігоддзем. Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа прыязджаў у Мінск. Рускі тэатр быў у Віцебску і Гродне, дарэчы, трэба адзначыць, што віцябляне і гродзенскія гледачы цёпла сустракалі гэты тэатр. ТЮГ рыхтуецца да гастроляў у верасні ў Гродне. Купалаўцы былі ў Іспаніі, Маскве, цяпер збіраюцца ў Харкаў, Санкт-Пецярбург. Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі "Вольная сцэна" толькі што вярнуўся з Гданьска, дзе браў удзел у міжнародным шэкспіраўскім фестывалі са спектаклем "Рычард III" у пастаноўцы Валерыя Анісенкі. Амаль усе абласныя тэатры — і драматычныя і тэатры лялек—Міністэрства культуры падтрымала ў гастролях па сельскай мясцовасці, па раёнах, забруджаных аварыяй на Чарнобыльскай АЭС.

**— Якія змены адбыліся ўнутры саміх творчых калектываў?**

— З 1989 года ў сувязі з пераходам тэатраў на новыя ўмовы гаспадарчай дзейнасці быў акрэслены статус мастацкага кіраўніка і разам з тым у гэтым палажэнні была вызначана магчымасць аб'ядноўваць пасаду дырэктара тэатра і мастацкага кіраўніка. У нас такі вопыт быў, і не сказаць, што ён дрэнны, але мы заўважылі, што такое спалучэнне не лепшым чынам адбіваецца на дзейнасці творцы. Мастацкія кіраўнікі ў нас усе рэжысёры па прафесіі, і калі мастацкі кіраўнік менавіта ў час рэпетыцыі пачынае думаць пра гаспадарку, дзе які цвік забіць, дзе там дзірка ў даху ці дзе знайсці матэрыял для пастаноўкі, то, зразумела гэта адмоўна ўплывае на пастановачны працэс. Сёлета мы вельмі арганічна і без нейкіх рэзкіх рухаў увялі пасаду дырэктара ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі "Вольная сцэна". Дырэктарам тэатра прызначаны вядомы тэатральнай грамадскасці драматург, артыст Юрый Кулік, а мастацкім кіраўніком застаўся той жа Валерый Мазынскі. Галоўным рэжысёрам у Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа прызначаны вядомы рэжысёр Віталь Баркоўскі, які дагэтуль ажыццяўляў пастаноўкі ў розных тэатрах: у Гродне, у Бабруйску, у Магілёве, на сцэне Рускага тэатра, у тэатры "Дзе-Я" і ў тым жа тэатры імя Якуба Коласа. Апошняя яго праца была — спектакль па п'есе Ж.Ануя "Жанна".

Гаворачы пра кадравае забеспячэнне тэатраў, нельга сказаць, што тут усё ў ружовых колерах. На погляд Міністэрства культуры, вельмі вялікай праблемай застаецца клопат пра творчую моладзь. Менавіта з гэтага пункта гледжання мы мяркуем правесці рэспубліканскі агляд творчай тэатральнай моладзі ў наступным годзе. Мяркуем завершыць гэты агляд фестывалем у адным з нашых буйнейшых гарадоў — магчыма, у Гродне.

**— Тут маюцца на ўвазе толькі прафесійныя тэатры альбо і аматарскія, народныя, тэатры-студыі?**

— Пытанне вельмі слушнае, таму што мы думаем пашырыць рамкі гэтага агляду і хочам далучыць сюды студэнцтва вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, якія рыхтуюць спецыялістаў для тэатраў. І таксама тэатры-студыі. Таму палажэнне мы выпрацоўваем з улікам рознабаковых інтарэсаў маладых людзей, якія прыйшлі ў тэатр і набылі прафесіі акцёра, рэжысёра і мастака. Чалавек можа і маляваць, і складаць вершы, і пісаць песні. Мы не будзем абмяжоўваць гэты агляд, каб на фестывалі разам са спектаклем ці монаспектаклем маладыя людзі маглі прадставіць свае музычныя творы, пантаміму, любыя жанры драматычных тэатраў і тэатраў лялек.

**— Але ж гэта вельмі вялікая праца, трэба столькі людзей перагледзець, ацаніць.**

— Сапраўды, гэта вельмі вялікая праца. Але мы маем падтрымку ў Дзяржаўным камітэце па справах моладзі, будзем разам з імі і разам з творчымі саюзамі праводзіць агляд на працягу 1997 года.

Хачу яшчэ раз падкрэсліць, што кадравае пытанне цяпер самае галоўнае. На калегіі Міністэрства культуры пры абмеркаванні пытання аб Купалаўскім тэатры, якое адбылося летась, адзначалася відавочнае старэнне творчых складаў тэатраў. Прывяду лічбу: у Купалаўскім тэатры сярэдні ўзрост артыста тэатра вышэй за 43 гады. Таму прыток моладзі проста неабходны, і калі мы сёння ўпусцім момант, то нас чакаюць вялікія складанасці. Але спадзяемся, што наборы ў Акадэмію мастацтваў будуць штогадовымі і на рэжысуру, і на акцёрскае майстэрства, і на рэжысуру тэатраў лялек. Яшчэ мы ўскладаем надзеі на тыя магчымасці, што дае нам Інстытут культуры, які рыхтуе эксперыментальны курс для Тэатра юнага гледача. Вельмі карысная ініцыятыва аблвыканкамаў, якія на базе вучылішчаў мастацтва ў абласных цэнтрах таксама займаюцца падрыхтоўкай новых тэатральных кадраў. Але ж на дадзены момант мы, як кажуць, вымушаны пагаджацца з тым, што маем. А гэтага яўна недастаткова. Напрыклад, у Брэсцкім тэатры драмы і музыкі дагэтуль няма мастацкага кіраўніка, галоўнага рэжысёра і чарговых рэжысёраў. Складанае становішча у Бабруйскім тэатры імя Дуніна-Марцінкевіча — няма чарговых рэжысёраў. Таксама няма чарговых рэжысёраў у Магілёўскім і Гродзенскім абласных драматычных тэатрах. Толькі ў Мінску сітуацыя нармальная, але Мінск мае магчымасць запрашаць лепшыя кадры.

**— Магчыма, трэба знаходзіць неардынарныя захады для зацікаўлення як тэатральных творцаў у сваёй працы, гэтак і грамадства ў тэатры.**

— Так, мы толькі вітаем такія прапановы. Напрыклад, на базе тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна" мы 16 — 17 верасня будзем праводзіць Другія сцэнічныя чытанні сучаснай нямецкай драматургіі. Цяпер мы пераносім гэтае мерапрыемства ў Віцебск у тэатр імя Якуба Коласа. Калі будуць ажыццёўлены пастаноўкі гэтых работ, маем намер правесці іх агляд разам з нямецкім культурным Цэнтрам імя Гётэ, што працуе ў Мінску.

**— Што б вы хацелі пажадаць дзеячам тэатра ў новым сезоне?**

— Творчага плёну, новых цікавых прэм'ер, адкрыццяў новых імёнаў: драматургаў, артыстаў, рэжысёраў, быць карысным нашаму грамадству.

**— Дзякуй за размову.**

## Панядзелак, 25 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

15.00 Навіны.
15.15 "Не адлятай, зямлянін!" Кароткаметражны маст. фільм для дзяцей.
15.55 "Ірынчына ўсмешка". Тэленарыс.
16.15 На добры лад. Перадача з Віцебска.
16.30 Госці ў дом. Да Дня Незалежнасці Малдовы.
17.00 Музычны антракт.
17.10 Параграф. Рынак працы.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл". Тэлесерыял.
19.05 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
19.15 Тэма дня.
19.35 Канцэртны сезон. "Класічны падарунак". Музычная праграма для меламанаў.
20.05 Творцы. Мастак Генадзь Івакін.
20.20 "Хто гэта?" Тэлегульня.
20.25 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Фільматэка. Наталля Вавілава і Валянціна Талызіна ў маст. фільме "Мой выбраннік".
23.20 Дзюдо. Міжнародны турнір.
23.50 Навіны.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.15 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
8.55 "Поле цудаў".
10.00 Футбольны агляд.
10.30 "Угадай мелодыю".
14.20 "Прэм'ера мульсерыяла "Пагоншчыкі дыназаўраў".
14.45 Марафон-15.
15.05 Зорная гадзіна.
15.40 "Гары — снежны чалавек".
16.05 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Вакол свету.
17.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.30 "Угадай мелодыю".
19.00 Панядзелак з Познерам. Праграма "Мы".
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 Кашмары Сцівена Кінга ў фільме "Кацінае вока".
22.25 "Сярэбраны шар". Наталля Ганчарова. Вядучы — В. Вульф.
23.10 Лінія кіно. Фільм Сяргея Сальянава "Руская ідэя".

### "Расія"

13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
13.25 Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
14.05 Подыум Д'Арт.
14.45 Я — гаспадар.
15.15 Тэлемагазін "Квантум".
15.20 "Ці-маркет" прадстаўляе.
15.30 "І гэта кіно". Дак. серыял (Францыя).
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
16.55 Паглядзі на сябе.
17.05 Новая Расія. Фестываль рэгіянальных праграм. "Жыццё маё электрычка" (Варонеж).
17.40, 0.20 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара". Серыял.
19.35 Добры вечар.
20.20 "Грэх". Маст. фільм.
22.30 Нобелеўскія лаўрэаты. І. Бунін.
23.10 Дзяжурная частць.
23.40 "Майстар-ралі-97".

### НТБ

8.15 "Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя" (ЗША).
9.15 Тэлегульня "Зразумей мяне".
9.45 Навіны кіно.
10.00 "Ілюзіі кахання" (Францыя).
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 "Маскі-шоу".
11.50 Мультфільм "Аліса у Краіне цудаў". 2-я серыя.
12.00 Дак. серыял "Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі". 8-я серыя. "Канкурэнцыя цераз Атлантыку".
13.20 Вотрасюжэтны фільм "Уцёкі са льдоў" (ЗША).
15.10 Маст. фільм "Блакітнае дрэва".
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Свет кіно. Баявік "Заложнікі" (ЗША).
21.45 Фстываль міні-серыялаў "Шэйх Бадзіяр па мянушцы "Пірат".
22.40 Часінка.
23.10 Адкрытае першынство ЗША па тэнісу. Турнір "Вялікага шлема" у Нью-Йорку.

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 Маст. фільм "Аліса і Букініст".
19.45 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.15 Мульт-планета.
20.30 Планета кіно.
21.00 Дэтэктыў па панядзелках. Дэвід Джэймс Эліот у маст. фільме "Ступень віны".

## Аўторак, 26 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Навіны.
8.10 Канцэртны сезон. "Калі збіраюцца сябры". Музычная праграма з удзелам ансамбля "Кубанцы".
9.00 Госці ў дом. Да Дня Незалежнасці Малдовы.
9.30 Эканамікст.
9.40 "Па сакрэту ўсяму свету". 2-я серыя.
10.40 "Будзь маім сланом", "Добры дзень, цётка Ліса!" Мультфільмы.
11.05 "Залатыя ключы". Тэлефестываль народнай творчасці.
11.45 "Кадфаэл". Тэлесерыял (Вялікабрытанія). 17-я серыя.
12.25 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
13.00 Навіны.
15.00 Навіны.
15.10 "Чорная курыца". Мультфільм.
15.30 Востраў натхнення. "Я малюю".
15.45 "Усё пра ўсё". Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей.
16.10 "Ода дрэву". Тэленарыс пра народнага майстра Анатоля Трубчыка.
16.30 "Памежжа". Перадача з Гомеля.
17.00 Музычны антракт.
17.10 Урокі Наталлі Навражылавай.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл". 17-я серыя.
19.05 "Музычная абойма".
19.15 Тэма дня.
19.35 "Пазнай сябе". Псіхалагічна-кансультатыўная праграма. "Парадоксы жаданняў".
20.00 Тэлевізійны Дом кіно.
20.30 Летні дзень вёскі.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Анатоль Равіковіч у дэтэктыве "Загадка Эндхауза".
23.30 Трэці тайм.
24.00 Навіны.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.25 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.00 Праграма У. Познера "Мы".
9.55 Смехапанарама.
10.30 "Угадай мелодыю".
14.20 "Пагоншчыкі дыназаўраў". Мультсерыял.
14.45 Квар'етэ "Вясёлая квампанія".
14.55 Мульцітролія.
15.15 Чароўны свет, ці Сінема.
15.40 "Гары — снежны чалавек".
16.05 ... Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Вакол свету.
17.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.35 "Угадай мелодыю".
19.00 Тэма.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 Леанід Быкаў і Мікалай Грыцэнка ў фільме "Лёс Марыны".
22.35 Дак. дэтэктыў "Чалавек па імені Алекс".

### "Расія"

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
9.10— 10.15 "Санта-Барбара". Серыял.
14.45 Спосаб жыцця.
15.10 Тэлемагазін "Квантум".
15.20 "Ці-маркет" прадстаўляе.
15.30 "І гэта кіно". Дак. серыял (Францыя).
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
16.55 Паглядзі на сябе.
17.05 Новае пятае кола.
17.40, 0.25 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара".
19.35 Добры вечар.
20.10 "Воблака-рай". Маст. фільм.
21.30 Момант ісціны.
22.35 Нобелеўскія лаўрэаты. Б. Пастарнак.
23.15 "Майстар-ралі-97".
23.30 Гукавая дарожка.
0.35—2.17 "Абсалютная ўлада". Маст. фільм (Канада—Ізраіль—Францыя).

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
8.15 "Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя".
9.15 Тэлегульня "Зразумей мяне".
9.45 Навіны кіно.
10.00 "Ілюзіі кахання". (Францыя).
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Дог-шоу. Я і мой сабака.
11.50 Мультфільм "Аліса ў Краіне цудаў". 3-я серыя.
12.00 Дак. фільм "Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі". 9-я серыя. "Вертыкальны ўзлёт".
13.20 Фантастычны мюзікл "Магазінчык жахаў" (ЗША).
15.10 "Блакітнае дрэва". Маст. фільм.
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
17.30 Праграма для дзяцей "Вуліца Сезам".
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Прэмія "Оскар". Меладрама "Аліса тут больш не жыве" (ЗША).
20.40 "Алё, Фіма!"
21.45 Містычны трылер "Прывіды". Фільм 1-ы. "Я буду за табой сачыць" (Вялікабрытанія).
22.40 Часінка.
23.10 Адкрытае першынство ЗША па тэнісу. Турнір "Вялікага шлема" у Нью-Йорку.
0.10 Гісторыка-містычная драма "Каспар Хаузер". Частка 1-я (Германія).

## Серада, 27 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Навіны.
8.10 "Ход сланом". Кароткаметражны маст. фільм.
8.20 Вока. Пра рэкламу і не толькі...
8.40 Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
9.00 Дзіцячы сеанс. Мульціклуб.
9.30 Эканамікст.
9.40 Абібок.
10.10 Камп'ютэрны палігон.
10.30 Музычны салон з Элеанорай Язерскай. Госць праграмы — Уладзімір Шаліхін.
11.15 "Кадфаэл". Тэлесерыял.
11.55 Відзьма-нявідзьма.
15.00 Навіны.
15.15 "Дзень нараджэння". Мультфільм.
15.30 Тэлебом-кліп. "Аднойчы летам".
15.55 "Вучні-настаўнікі". Тэленарыс, прысвечаны памяці Ларысы Марголінай.
16.30 Гарады і людзі. Магілёў (Беларусь) — Айзенах (Германія).
17.00 Музычны антракт.
17.10 "Сын Айчыны". Дак. фільм.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл". Тэлесерыял.
19.05 "Музычная абойма".
19.15 Тэма дня.
19.35 Цёмны пакой. "Магія лічбаў".
20.00 Ток-шоу "Гэта мая работа". Да Дня кіно.
20.25 Аўта-парк.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Віктар Паўлаў і Уладзімір Этуш у маст. фільме "Не будзіце спячага сабаку". 1-я серыя.
23.00 Каралеўскае паляванне.
23.40 Навіны.
23.50 Футбол. Кубак чэмпіёнаў. МВКЦ — "Алімпіякас" (Грэцыя). 2-гі тайм.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.00 Тэма.
9.45 У свеце жывёл.
10.30 "Угадай мелодыю".
15.15 Покліч джунгляў.
15.40 "Гары — снежны чалавек". Камедыйны серыял.
16.05 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Вакол свету.
17.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.35 "Угадай мелодыю".
19.00 "Каб памяталі..." Аляксей Смірноў. Вядучы — Л. Філатаў.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 час.
20.45 Аляксей Смірноў у фільме "Разведчыкі".
22.15 Спявае Лайма Вайкуле.

### "Расія"

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
9.10—10.15 "Санта-Барбара". Серыял.
14.45 Парламентарый.
15.10 Тэлемагазін "Квантум".
15.20 "Ці-маркет" прадстаўляе.
15.25 "Дзве рукі", "Шкло". Мультфільмы.
15.30 "І гэта кіно". Дак. серыял (Францыя).
16.20 Там-там навіны.
16.35 Лукамор'е.
16.55 Паглядзі на сябе.
17.05 "Лёшкаў луг". Дак. фільм. Частка 4-я.
17.40, 0.10 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара". Серыял.
19.35 Добры вечар.
20.20 "Пейзаж з трыма купальшчыцамі". Маст. фільм.
22.35 Нобелеўскія лаўрэаты. М. Шолахаў.
23.15 "Майстар-ралі-97".
23.30 Кафэ "Абломаў".
0.20—1.56 "Адшукваецца небяспечны злачынца". Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

12.30, 15.30, 18.30, 20.25 Інфарм ТБ.
12.45 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.35 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25 Хутарок.
14.55 Зорны розыгрыш.
15.40, 22.20 Тэлеслужба бяспекі.
15.55 "Перамагчы Аляску". Маст. фільм (ЗША). 1-я серыя.
16.50 Іржавыя правады.
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 "Бау-Бум", "Крот і аўтамабіль". Мульфільмы.
19.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
20.30 VI Сусветны кірмаш "Расійскі фермер". Дзённік.
20.40 Паэзія Марыны Цвятаевай.
20.45 Скарбы Пецярбурга. "Чырвоная нітка". Частка 1-я.
21.00 Парадоксы гісторыі. "Справа 29 экспрапрыятараў".
21.30—22.40 "Перамагчы Аляску". Маст. фільм (ЗША). 1-я серыя.

### НТБ

8.15 Мужчынскі серыял. "Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя".
9.15, 17.30 "Вуліца Сезам".
9.45 Навіны кіно.
10.00 "Ілюзіі кахання".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Свая гульня.
11.50 Мультфільм. "Аліса ў зазяркаллі". 1-я серыя.
12.00 Дак. фільм "Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі. 10-я серыя. "Знішчальнікі".
13.20 Камедыя "І злодзеі кахаюць".
15.10 "Блакітнае дрэва". Маст. фільм.
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Доктар Вугал.
19.00 Футбол. "Спартак" (Масква) — "Кошыцэ" (Славакія).
21.45 Містычны трылер "Прывіды". Фільм 2-гі "Кроў і вада" (Вялікабрытанія).
22.40 Часінка.
23.10 Адкрытае першынство ЗША па тэнісу. Турнір "Вялікага шлема" у Нью-Йорку.
0.10 "Каспар Хаузер". Частка 2-я (Германія).

### ТБ-6 Масква

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.05, 23.05 Шэсць навін.
7.45, 10.15, 17.10 Аптэка.
8.30, 17.35 Шоу Івана Дзямідава "Абоз".
9.05, 18.10 Праграма А. Паліткоўскага "Тальяцінскі ідал".
9.40 Серыял "Сям'я Кэмпбелаў".
11.00 Баявік "Паляванне на Клода Даласа".
13.05 Мультфільмы: "Часы года. Краі белыя — сярэдзіна зялёная". "Па шчупаковаму загаду".
14.00 Кінатэатр ТБ-6. "Школьны вальс".
16.05 Серыял для падлеткаў "Фліпер".
19.05 Ток-шоу "Я сама: "Далоў патрыярхат".
20.20 Сінція Ротрок у камедыйным баевіку "Хутчэй змывайся II" (ЗША).
22.05 Дак. фільм "Паўстагоддзя на свеце, 30 гадоў на сцэне. Бары Алібасаў". 3-я серыя.
22.40 Тыя Хто. Маргарыта Церахава.
0.20 Знак якасці.

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 М. Карачанцаў у маст. фільме "Танга на Дварцовай плошчы".
19.45 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.15 Мульт-планета.
20.30 Серыял "Горац-4".
22.00 Маст. фільм "Смерць у яе перад вачамі".

## Чацвер, 28 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

Тэхнічная прафілактыка да 15.44

15.55 Педагагічны экран. Да пачатку новага навучальнага года. Прымаюць удзел прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Беларусі.
16.35 "Так гэта было..." Расказвае былы франтавы разведчык Герой Савецкага Саюза Мікалай Абядняк.
16.55 Футбол. Кубак кубкаў. "Белшына" — "Садам" (Эстонія).
18.50 Навіны (з сурдаперакладам).
19.05 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
19.15 Тэма дня.
19.35 Зроблена ў Беларусі. Вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій".
19.50 АРТ-клуб. М. Гарэцкі. "Драматычныя абразкі".
20.30 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 "Тэлебарометр". Прагноз надвор'я.
22.05 "Не будзіце спячага сабаку". Маст. фільм. 2-я серыя.
23.15 "Крок". XIV Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў на Кубе.
23.55 навіны.

### ГРТ

15.15 Лего-го!
15.40 "Гары — снежны чалавек". Камедыйны серыял.
16.05 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Вакол свету.
17.00 Навіны.
17.15 "Дзяўчына па імені Лёс". Серыял.
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.30 Джэнтльмен-шоу.
19.00 Мая сям'я: кватэрнае пытанне.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Праграма перадач.
20.45 Джодзі Фостэр і Рычард Гір у меладраме "Сомерсбі".
22.45 Магія: свет звышнатуральнага.
23.15 Навіны.

### "Расія"

Тэхнічная прафілактыка

16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
16.55 Паглядзі на сябе.
17.05 Людзі, грошы, жыццё...
17.40, 23.30 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара". Серыял.
19.35 Добры вечар.
20.20 "Незвычайная выстаўка". Маст. фільм.
22.35 Нобелеўскія лаўрэаты. А. Салжаніцын.
23.15 "Майстар-ралі-97".
23.40—1.33 "Цэнзуру да памяці не дапускаю". Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

Прафілактыка да 15.30

15.30, 18.30, 20.25 Інфарм ТБ.
15.40 "Гісторыя кахання". Серыял.
16.35 "Перамагчы Аляску". Маст. фільм. 2-я серыя.
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 "Крот і парасон". Мультфільм.
19.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
20.30 VI Сусветны кірмаш "Расійскі фермер". Дзённік.
20.40 Паэзія Марыны Цвятаевай.
20.45 Дом кіно. "Новыя імёны".
21.30 "Перамагчы Аляску". Маст. фільм. 2-я серыя.
22.20—22.40 Тэлеслужба бяспекі.

### НТБ

15.00 Сёння ўдзень.
15.10 Маст. фільм "Блакітнае дрэва".
16.00 Дыстанцыя 60.

---

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63875** індэкс выдання

КУЛЬТУРА

Колькасць камплектаў

На 19 97 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету **63875** індэкс выдання

КУЛЬТУРА

Кошт: падпіскі руб.___кап.; пераадрасоўкі руб.___кап. Колькасць камплектаў

На 19 97 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

МАСТЫХІН

# ТЫМ ЯНЫ І ЦІКАВЫЯ...

***Гэтая выстава, наладжаная Міжнародным культурным фондам Кандрата Крапівы, праводзілася ў Палацы мастацтва ў рамках культурнай праграмы "Сучаснае мастацтва Беларусі". Праграма прадугледжвае шэраг мастацкіх акцый, скіраваных на пашырэнне і паглыбленне цікавасці да нацыянальнай культуры, "выяўленне і сістэматызацыю" розных мастацкіх і літаратурных накірункаў у сучасным мастацтве. Задача Фонду — яднанне ўсіх гэтых накірункаў на падставе ідэі "Беларусь — гістарычна складзены мост паміж культурамі Захаду і Усходу, паміж рознымі падыходамі да культурных працэсаў у свеце". Такім чынам, выстава. Чатыры жывапісцы і адзін скульптар. Самы стары і вопытны з іх — Барыс Казакоў. У нацыянальным жывапісе асоба вядомая. Астатнім ад 30 да 40 гадоў. Што ж іх аб'ядноўвае? Па-першае, адукацыя. Усе яны скончылі БДТМІ, рана пачалі паказваць свае творы на айчынных і замежных выставах. Па-другое, для іхніх твораў характэрны духоўны пачатак, пластычная разняволенасць і... моцнае імкненне да самабытнасці. І адначасова кожны з іх — індывідуальнасць са сваім уласным дыяпазонам эстэтычных і чалавечых пачуццяў, перажыванняў, памкненняў, ведаў, супярэчнасцяў...***

Барыс КАЗАКОЎ — мастак "класічнага", "аб'ектыўнага" адлюстравання свету. Уважлівае стаўленне да атачэння, спасціжэнне сутнасці быцця праз "аб'ектыўнае" жыццё чалавека, жывёлы альбо рэчы з'яўляюцца праграмай ягоных палотнаў "Сняданак", "Мурашнік", "Іван Сцяпанавіч", "Сярэбраная", "Хлеб", "Царвіно і Цар-рыба"... Гэтая задача глыбока традыцыйная для жывапісу. Але майстэрства мастака прымушае нас "забыцца" на традыцыі. У Казакова ўсё моцнае, важкае, мае выразныя межы ў прасторы. Сцвярджэнне трываласці жыцця, яго бачнага харства для яго найважнейшая, амаль філасофская праблема. І справа зусім не ў імітацыі рэальных рэчаў, хаця ягоны жывапіс бліскуча перадае і матэрыяльныя ўласцівасці, і фактуру. Гармонія ўтрымліваецца не ў існаванні самога прадмета, а ў наяўнасці вакол яго духоўнай ауры, што ствараюць сваёй прысутнасцю "героі" палотнаў. Гэта значыць, погляд на першасны сэнс быцця ў Казакова вылучаецца ў найвышэйшай ступені сур'ёзнасцю эстэтычнага перажывання.

Руслан ВАШКЕВІЧ — мастак іншага складу. Мастак-сімваліст, які цалкам вызвалены ад тлуму будзённасці. Ён стварыў свой жывапісны "тэатр", дзе нібыта адсутнічаюць дэкарацыі. Ягоныя персанажы іграюць на авансцэне спектаклі, дзе адначасова пераплятаюцца абсурд і наіўнасць, мадэрновая рафінаванасць і простая рэальнасць, шчырасць і разлік, пазіцыі і поза, жарты і драма.

Ягоныя лаканічныя, амаль манахромныя карціны — эпатажныя, цалкам прыдуманыя, нечаканыя, прываблівають гледача нейкім дзіўным магнетызмам, таму што вобразы ягоных карцін — гэта мы. Толькі мы самі пакуль што пра гэта не ведаем...


Руслан Вашкевіч. Партрэт жонкі ў касцюме казырнай дамы. Палатно, алей


Сяргей Рымашэўскі. Востраў. Палатно, алей

Сяргей РЫМАШЭЎСКІ... Разумная арганізацыя прасторы, што хавае ў сабе вар'яцтва бясконцасці, — вось уражанне ад ягоных карцін. Адзін з твораў мастака называецца "Бег ад самога сябе". Магчыма, сапраўды, аўтар і ў сваёй творчасці ўцякае ад сябе —у фантастычныя "квадратныя" снабачанні, углыб патаемных радкоў "неадпраўленага ліста", бяжыць, спадзеючыся знайсці свой куток, свой заселены востраў, сваю пастараль з яблыкавай прахалодай і персікавым джэмам. Карацей, знайсці дом, дзе цябе чакаюць. Гэта ўсё — з назваў ягоных таленавітых карцін, што прымушаюць думаць пра крушэнне чалавечых надзей, пра ілюзіі, якім уласціва заўчаснае заканчэнне...

Рымашэўскі — мастак "ангажаванага жывапісу", аднак ягоныя карціны — не кангламерат знакаў з моцна ўсталяваным зместам, якія дадаюцца адзін да аднаго і якія можна было б "чытаць", гэта, хутчэй, "інсцэніраванне" праграмы-маніфеста аўтарскіх перажыванняў і разваг.

Побач — Вольга ДАМАНАВА. У яе — жывапіс метамарфоз. Жывапіс прысвячэнняў. Чаму? Ці то напаўзабытаму, рамантычна-гарачаму мінуламу, якое мае звычку іншы раз урывацца ў задушлівы і халодны сучасны свет, ці то — нязддзейсненай мары, што нараджаецца, развіваецца, жыве, змагаецца за існаванне, памірае і зноў з'яўляецца...


Барыс Казакоў. Хлеб. Палатно, алей


Канстанцін Селіханаў. Без назвы. Бронза

Прастора Мары мастачкі можа ўвасабляцца ва ўсялякія, зразумелыя і незразумелыя формы: звычайныя, рэальныя і ірэальныя, фізічныя і метафізічныя, формы сноў, казак і магіі — яны мільгацяць і знікаюць... Карціны Даманавай — гэта нібыта імправізацыя, фантазія, акт шчасця. Менавіта ў такім "акце шчасця", мабыць, і ўзнікаюць сумныя і тужлівыя сюжэты з "кніжнага свету" дзяцінства, ператвараючыся ў рэштцы магеланавага шлюпа, што загінуў ля крутога берага альбо ў хлопчыка-фурмана, у малітву мора альбо ў алегарычнае, абпаленае з аднаго боку бервяно — слуп за спінай дзяўчынкі.

Карацей, у палотнах Даманавай ёсць, з аднаго боку, наіўная радасць быцця, а з другога — нейкая стомленая меланхалічная назіральнасць, усюдыісны скепсіс і прыхаваная драматычнасць...


Вольга Даманава. Малітва. Палатно, алей

Канстанцін СЕЛІХАНАЎ. Скульптар. У тым, што творы мастака ўбіраюць у сябе глыбінны культурны і гістарычны кантэкст, метафарычнасць, філасофскае абагульненне вобраза, які неабавязкова павінен быць прачытаны з першага погляду, а патрабуе судачынення гледача, няма нічога дзіўнага. Якасці гэтыя сталіся амаль абавязковымі ў мастацтве.

Але творы Селіханава, акрамя таго, ствараюць вакол сябе асаблівае поле прыцягнення, асаблівы мікраклімат, які "ўцягвае" ў сябе гледача, заваладвае ягонымі думкамі, пачуццямі, нараджае "адказ душы", дзякуючы чаму і ўзнікае той самы цуд, які мы клічам Мастацтвам...

"Сад", "Танцоўшчыца", "Парыс і Алена", "Вандроўка", "Тры постаці", "Павел і Пётр", "Без назвы" — гэтыя "прасторавыя" творы мастака немагчыма пераказаць. Іх трэба бачыць з сярэдзіны, звонку. Скрозь асабісты вопыт. Скрозь памяць жыцця, папярэдніх жыццяў. Скрозь пачуццё будучыні...

Так, уся "цудоўная пяцёрка" мастакоў ніяк не укладваецца ў пракруставае ложа "наменклатуры" сённяшняга мастацкага жыцця. Яны таямнічыя, загадкавыя, хітраватыя і наіўныя, разумныя і шчырыя, прыгожыя ў сваіх пошуках і нечым дзіўныя ў сваіх неадназначных эстэтычных ідэалах.

Гэтым яны і цікавыя.

# ПРЫТЧА АБ НЕБЕ, або Аб тым, як рудая сініца стала Сіняй птушкай

Гэта складана — увесь час глядзець у неба, а не сабе пад ногі, баючыся аступіцца. Гэта цяжка — "в грязи оттаявших луж" бачыць "отражение чистого неба".

І хіба не цуд, што насуперак рэчаіснасці, здавалася б, поўнага панавання матэрыяльнага над духоўным, сярод нас з'яўляюцца бяссрэбранікі-летуценнікі: пісьменнікі і музыканты, паэты і мастакі.

Сярод іх — Алег Прусаў. Работы маладога віцебскага мастака адчыняюць перад гледачом своеасаблівую "Эстэтыку неба", дораць прытчу аб зорках. Галоўны сэнс свайго мастацтва Алег выразіў словамі:

Все гурманы: кто чая, кто покоя./ А я покажу вам/ Маленькую рыжую синицу./ Что сидит у меня на ладони./ Придут беспечные холода./ И без спроса сядут за стол./ И она улетит./ И останется главное:/ Желание протягивать к небу руку.

Адна з жывапісных работ так і называецца: "Дзень рудой сініцы". На ёй — чалавек з працягнутай уверх рукой, каля яго ног — адчыненая клетка, а навокал — дыван з белых кветак.

Калі супастаўляеш вершы і карціну, раптам разумееш, што толькі што паляцеўшая з далоні рудая сініца — не хто іншы, як Сіняя птушка, якая, страціўшы свабоду, страціла і сваё аблічча.

І надзелены аўтарскім правам мастак, як некалі героі аповесці Метэрлінка, выпускае сваю Сінюю птушку на Свабоду. Не ўсякі мастак здольны падысці да гэтай мяжы і вырашыць галоўнае для сябе пытанне: "Навошта?".

Для Алега рашэнне гэтага пытання было адназначным: дзеля таго, каб людзі ўзнялі галовы ўверх і ўбачылі неба, і тады "...обязательно из десяти тысяч звёзд каждый найдёт свою истину".

Работы Алега прасякнуты водарам таямнічасці і загадкавасці. Ён дакладна ведае, што ў жывапісе, як і ў жыцці, лепш не дасказаць, адсюль шматварыянтнасць у прачытанні тэм.

І магчыма нешта не зразумець, але не адчуць "жывы нерв" карцін немагчыма. Сярод іх няма ніводнай, напісанай раўнадуш-

У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася юбілейная выстава жывапісу Віктара Аляксандравіча АНДРОСАВА, прысвечаная ягонаму 60-годдзю. На суд гледачоў аўтар прадставіў каля 60 жывапісных палотнаў, на якіх можна ўбачыць і рыбака, і даярку, і механізатара, і блакітныя азёры Прыдзвінскага краю.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.



най рукой. Няма жывапісу дзеля жывапісу, формы дзеля формы.

Здаецца, малады мастак валодае ключом нейкай таямніцы. Таямніцы, якая цудоўна-настальгічная, разгадка якой немагчымая, да якой нельга падысці блізка, дакрануцца. Магчымы толькі лёгкі дотык, які абпальвае, прымушае ўздрыгануцца: "Хто мы? Куды ідзем?".

Алег Прусаў даў свой адказ на гэта пытанне карцінамі, вершамі, прытчамі. На яго работах адлюстраваны мудрыя Настаўнікі Усходу і біблейскія персанажы (работы "Адзін з Братоў", "Каін і Авель", "Анёл адпачывае"). Складанае прачытанне філасофскіх тэм суседнічае з лёгкай іроніяй, якая прачытваецца ў асобных работах ("Крэсла імператара", "Нацюрморт").

Асаблівае месца ў творчасці Алега займае жанр нацюрморта. Вы быццам бы ўпадаеце ў свет андэрсенаўскіх казак. Тут усё пазбаўлена статычнасці, некуды імкнецца, надзелена індывідуальнымі рысамі: і маленькі кубачак з гарошынамі-вяснушкамі, і трэснуты стары кафейнік.

На карцінах у мастака могуць спрачацца чайнік і кубак, і на цесным памосце кухоннага стала разыгрываецца суцэльнае сцэнічнае прадстаўленне, імя якому — "Чайная цырымонія".

На свае нацюрморты аўтар глядзіць як бы "зверху" поглядам пабочнага назіральніка, які, праходзячы ўздоўж стала, раптам спыніўся, уражаны дзівосным светам знаёмых яму рэчаў.

Такую "партрэтнасць" надаваў свету рэчаў вялікі Ван Гог. І невыпадкова менавіта гэтага мастака Алег Прусаў называў сярод сваіх самых любімых.

Алег захапляўся Салаўёвым і Бярдзяевым, Моцартам і Бахам. Колькі цудоўных карцін і вершаў мог бы ён падарыць нам, але "слишком чист был снег, чтоб остаться нетронутым, слишком красив, чтоб не быть близким к смерти".

І яшчэ...

Под ногами моими/ белый снег./ Как трудно идти по белому.

Сапраўды, як складана жыць "начыста", нідзе не памыляючыся і не здраджваючы самому сабе. Ён змог. Змог прайсці свой шлях імкліва, прайсці як па струне, не баючыся быць незразумелым, "несучасна" шчырым. Алега ўжо няма, але ёсць яго карціны, вершы, якія працягваюць яго размову "пра галоўнае".

**Наталля КАРЖЫЦКАЯ**
**Полацк**

# "У ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ Я ПРАЦАВАЎ, ЯК ВОЛ..."

***2 верасня ў рэспубліканскім Палацы мастацтва адкрываецца выстава жывапісу вядомага мастака Віктара Барабанцава, прысвечаная ягонаму 50-годдзю.***

Наш карэспандэнт сустрэўся з Віктарам Кірылавічам і папрасіў яго адказаць на некаторыя пытанні.

***— Віктар, паводле адукацыі ты мастак-манументаліст, вучань Гаўрылы Вашчанкі і Уладзіміра Стальмашонка. У тваім творчым актыве нямала арыгінальных фрэсак і вітражоў, зграфіта і мазаік... Але сёння на манументальныя рэчы практычна няма попыту. Калі ты ў апошні раз выконваў такога кшталту працу?***

— Гадоў пяць таму. Гэта было мазаічнае пано "Песня пра край" для калгаснага Дома культуры райцэнтра Драгічына.

**— А на што ты сёння жывеш?**

— На выпадковыя заробкі. Іншы раз удаецца прадаць што-небудзь са станковага жывапісу, якім я займаюся больш за 20 гадоў. Тры — чатыры гады таму рэстаўраваў фрэскі ў цэрквах Маладзечна, а таксама пісаў новыя...

**— Ці не крыўдна табе, што ты, класны манументаліст, не маеш сёння магчымасці ўкласці свой талент у гэты найважнейшы від творчасці, які, як ніякі іншы, максімальна фармаваў эстэтычнае аблічча гарадоў і вёсак?**

— Крыўдна. Але што паробіш? Манументальнае мастацтва ў нашых умовах стала непатрэбным, незапатрабаваным. Бо, як табе вядома, выдаткаў яно патрабуе вялікіх, а грошай у замоўцаў няма. Вельмі шкада...

**— Я ведаю, што ў станковым жывапісе ты аддаваў перавагу, так бы мовіць, гістарычнай тэматыцы, звязанай з нацыянальным Адраджэннем Беларусі. Праз тваю творчасць прайшлі Мікола Гусоўскі і Францішак Скарына, Сымон Будны і Тадэвуш Касцюшка, Кастусь Каліноўскі і Янка Купала, Максім Багдановіч і Кірыла Тураўскі. Ты пісаў шмат пейзажаў і партрэтаў...**

— Цалкам дакладна. Але ўсё ж галоўным сваім дасягненнем апошніх гадоў лічу серыю карцін "Чарнобыль". У 87-м я ездзіў у Чарнобыльскую зону не проста "паглядзець" і выйсці на нейкую кан'юнктурную хвалю. Я там працаваў як вол. За свае "чарнобыльскія" палотны стаў лаўрэатам рэспубліканскай прэміі прафсаюзаў, быў узнагароджаны Граматай Міністэрства замежных спраў Беларусі...

**— Я памятаю твой чарнобыльскі цыкл карцін, сярод якіх найбольш моцнае ўражанне на мяне зрабілі трыпціхі "Зона", "Чарнобыль — наш боль" і "Зона маўклівасці". А колькі ўсяго карцін ты напісаў на гэтую тэму?**

— Каля дваццаці. І цяпер працягваю пісаць...

**— Што будзе прадстаўлена на тваёй персанальнай выставе?**

— Партрэты, пейзажы, тэматычныя карціны, у тым ліку і чарнобыльская серыя — усяго 50 — 60 экспанатаў...

**— Што табе сёння патрэбна для поўнага творчага задавальнення?**

— Майстэрня. Вось дажыў да пяцідзесяці гадоў, а майстэрні так і не маю. Даводзіцца працаваць дома альбо на плошчах мастацка-вытворчага камбіната...

**— Так, гэта тым больш дзіўна, што ты — адзін з найбольш актыўных мастакоў, удзельнік шматлікіх выстаў не толькі на Беларусі, але і ў ЗША, Бельгіі, Літве, Расіі, Грэцыі. Не кажучы ўжо пра твой унёсак у манументальны летапіс краіны... Хочацца верыць, што на 51-м годзе жыцця ты ўсё ж атрымаеш творчую майстэрню. А як жа інакш?**

— Дзякуй за добрыя пажаданні.



*В.Барабанцаў. Сон. Палатно, алей*

*В.Барабанцаў. Светлы дзень. Палатно, алей*



# ЖЫВАПІСНЫЯ НАКЦЮРНЫ УЛАДЗІМІРА СУЛКОЎСКАГА

***Уладзімір Сулкоўскі належыць да тых рэдкіх у наш час мастакоўскіх натур, для якіх не існуе праблемы формы выказвання ў пейзажы альбо нацюрморце. Ён не "шукае сябе" ў мастацтве —яму гэта проста не патрэбна. Ягоная творчасць абсалютна арганічная. Усёй даступнай яму гучнасцю голасу ён спявае сваю песню. І толькі сваю. І гэтая песня меладычна і вольна льецца з ягонай душы...***

*У.Сулкоўскі. Ручай.*

Калі стаіш перад палотнамі Сулкоўскага, што экспануюцца ў галерэі Саюза мастакоў "Мастацтва", адчуваеш амаль фізічна, як адна за адной падаюць адвечна існуючыя перашкоды паміж "я" і "не я", паміж гледачом і гэтымі чароўнымі куточкамі прыроды, гэтым усхваляваным, несупынным рухам, яркім шматколерным суквеццем паміж асобай і ўсім велізарным, квітнеючым, зялёным светам.

Узіраючыся ў ягоныя пранізлівыя жывапісныя накцюрны "Травеньскі дзень", "Дзічка", "Стары млын", "Пасля навальніцы", "Вербная нядзеля, "Вяргіні", "Крынічка", "Ручай", адчуваеш, што яны з'яўляюцца тым вакном, праз якое глядзіцца сам у сябе Сусвет; радуешся таму, што так шчодра раскрывае талент мастака-паэта: веліч і квітненне зямлі, зліццё чалавека са светам, што прачнуўся, яўнае і схаванае змаганне магутных сіл прыроды.

І гэтае далучэнне да Сусвету не нясе ў сабе нічога штучнага. Якраз наадварот: перад карцінамі У.Сулкоўскага чалавек адчувае сябе пачаткам самой прыроды, чым ён і з'яўляецца на самай справе, але што ён не заўсёды ўсведамляе за дробязнымі клопатамі і паўсядзённымі турботамі.

*У.Сулкоўскі. Вяргіні.*



***Аўтар "Мастыхіна" Барыс КРЭПАК***

25 жніўня на Магілёўшчыне адбудзецца адкрыццё II Міжнароднага пленэру па жывапісе імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння гэтага выдатнага мастака, нашага земляка. У праграме пленэру: работа мастакоў на пленэры ў Магілёўскім раёне і на Акадэмічнай дачы "Чайка" (Расія), дзе пэўны час жыў і працаваў жывапісец, адкрыццё мемарыяльнага знака ў Крынках — месцы нараджэння Вітольда Каятанавіча, адкрыццё ў Магілеве помніка-бюста народнаму мастаку Беларусі, пейзажысту П.В.Масленікаву, адкрыццё выставы ўдзельнікаў пленэру і іншыя мерапрыемствы.

Пленэр працягнецца да 21 верасня.

## "ДЭСЕРТ" АД АЙВАЗОЎСКАГА

З нагоды 50-годдзя сваёй творчай дзейнасці Іван Канстанцінавіч Айвазоўскі даў святочны абед. Напрыканцы яго юбіляр, сумеўшыся, вымавіў:

— Прашу прабачыць за тое, што мой кухар не прыгатаваў што-небудзь на дэсерт. Таму я прапаную прыняць ад мяне страву, прыгатаваную асабіста мной.

І кожнаму госцю слуга падаў на падносе... маленькі пейзажык з аўтографам Айвазоўскага.

Зразумела, тыя "дэсертныя" эцюды не ўвайшлі ў экспазіцыю выставы жывапісу Івана Айвазоўскага, якая экспануецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Але тыя трынаццаць палотнаў, якія з'яўляюцца гонарам фондаў нашага музея, не могуць не захапіць чароўнымі фарбамі мора. Раім паглядзець!

# ПАЛЁТ ДА ЗЯМЛІ

***“Аднойчы мне прысніўся сон: белы шар Зямлі, паранены гіганцкім чорным асколкам нянавісці. Уваткнуты ў Зямлю, ён ледзьве не рассек яе. Урасло гэтае жалеза, ды так і засталося на зямлі...***
***Мы “хворыя” нянавісцю да гэтай пары. Вылечыцца ад яе магчыма толькі любоўю і праўдай...***
***22 — 23 жніўня ў Мінску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры адбудзецца сустрэча па абмеркаванні ідэі стварэння беларуска-германскага музея-цэнтра “Прымірэнне”. Шлях да гэтай ідэі распачаўся дзесяцігоддзі таму, але я яшчэ не ведаў, што крочу да яе... Крочу ад безымянных драўляных абеліскаў на вясковых плошчах майго пасляваеннага дзяцінства. Ад расстраляных, закатаваных, без вестак прапаўшых маіх суродзічаў... Ад лагераў і ссылак Варкуты і Казахстана, дзе пакутавалі мае родныя і блізкія. Ад лётчыкаў, пехацінцаў, артылерыстаў, партызан — ад усіх без вестак прапаўшых салдат, каго мы з дзецьмі з пошукавага атрада разведчыкаў ваеннай славы знайшлі... Ад невядомага нямецкага салдата, які ў дні вайны адымаў малако ад шчанюкоў службовай аўчаркі і прыносіў яго беларускім дзеткам з в.Целяшы, што пад Гомелем...***
***Звяртаюся да чытачоў газеты з просьбай выказаць свае думкі ў сувязі з гэтым праектам, а таксама даслаць звесткі аб людзях, вартых ушанавання ў музейнай экспазіцыі.***
***Аб адным з такіх людзей — 19-гадовым лётчыку Міхаілу Марушчанку — я і хацеў бы сёння распавесці чытачам “Культуры”.***



Дзверы з майго кабінета гісторыі заўсёды былі адчыненыя з той пары, калі ў музеі з'явіўся яго партрэт. І больш ужо не зачыняліся ніколі. І падчас урокаў, і на перапынках, і летам, калі мы былі ў пошукавых экспедыцыях. Гэта праўда, як усё тое, пра што ты, чытач, тут даведаешся. Ён так на мяне глядзеў скрозь праём дзвярэй, што мне было не пад сілу іх зачыніць. Ну, як жывеш? — быццам пытаўся яго позірк, у якім я чытаў і дакор, і ўхвалу, і маркоту...

І калі на Дзень Перамогі я падымаў чарку, яна была і за яго — майго пабраціма, лётчыка Міхаіла Марушчанку. Ён глядзеў з фота “на ўспамін дарагім бацькам і сястрычцы ад сына і брата Міхаіла. 17. VII. 43 г.”, а мне здавалася, што гэта “на ўспамін” мне і маім юным сябрам з атрада РВС, хто з балота Альсы падняў яго ў гэтай гімнасцёрцы, падперазанай гэтым рамянём і з гэтым пісталетам ТТ НР 5773 1942...

І сёння я жадаю расказаць вам пра салдата, якога мы вярнулі людзям з небыцця.

## І. ПОШУК

Яшчэ ў 1977 годзе старшы навуковы супрацоўнік Гомельскага абласнога краязнаўчага музея Мікалай Сямёнавіч Царкоў перадаў нам спісы лётчыкаў, якія не вярнуліся з баявых заданняў у небе Гомельшчыны. Неабходна было выявіць абставіны іх гібелі. Сярод іншых была архіўная выпіска з датай і месцам апошняга бою экіпажа ІЛ-2 (218 штурмавога авіяпалка) у складзе Георгія Ананьева і Івана Колабава. Так здарылася, што ў пошуку гэтага экіпажа мы знайшлі лётчыка-знішчальніка, лёс якога быў кроўна звязаны з лёсам Георгія і Івана.

Летам 1978 г. у экспедыцыі па Жлобінскім раёне мы пачулі апавяданне Аляксандры Васілеўны Кажамякінай з в.Аляксандраўкі Майскага сельсавета: “Мая маці ўвесь час дапамагала партызанам. Яны прывозілі свежаніну, мы яе па начах варылі, а мяса хавалі ў хлеў. Такім чынам харчавалі партызан. Аднойчы не паспелі згатаваць, як у вёску наляцелі карнікі. А ў хаце такі дух стаіць! І маці заслонку ў печы прыкрыла, а сама да яе плячамі і рукі распасцерла. Немцы ў хату — і нас на двор... Паліць. І мая малодшая сястра з Бабруйска пачала прасіць, што, маўляў, забівайце, але не паліце — вельмі страшна гарэць. Калі перакладчык растлумачыў — нас выгналі ў Антонаўку (за 7 км). А іншых усіх папалілі — Цупер (60 чалавек), Аляксандраўку, Гуляй-поле, Вікаў. У Вікаве ўсіх у хляве спалілі... А самалёты?.. А вы ў Федзькі Кузьміна лепш папытайцеся. Ён у нас усё ведае. Сам ваяваў, палон перанёс, ды і нагогул — бывалы мужык. Ён зараз на лузе кароў пасе”.

Там і знайшлі мы Фёдара Цімафеевіча Кузьміна. Руды ад сонца і вятроў, карчакаваты, з цыгаркай, нібыта ўклеенай у вугал рота, ён з прыжмурам глядзеў на нас. Цыкнуў на свайго кудлатага сабаку і запрасіў прысесці. А калі даведаўся, пра што гаворка, сказаў: “пайшлі, рабяты....” І паказаў на лузе Альсы месца недалёка ад Аляксандраўкі, дзе ўпаў наш знішчальнік: “Хлопцы выцягнулі парашут, дзве ашчадныя кніжкі, ваенны білет на імя Марушчанкі, здаецца Пятра, з Днепрапятроўска. Гэтыя дакументы мы здалі ў Стрэшынскі райваенкамат...” Фёдар Цімафеевіч абяцаў напісаць ліст брату — капітану Савецкай Арміі і разведаць падрабязнасці. Але ці дакладна запомніў “дзядзька Федзька” імя лётчыка? Пакуль мы гэтага не ведалі.

Але ведаў заліўны луг. Успаміналі лётчыка аднапалчане, якія выйшлі са смяротнага бою з пачуццём віны перад ім. Дзесьці спадзяваліся і чакалі родныя. Яшчэ жывыя былі сведкі яго апошняга бою. А ў архівах павінна было захавацца імя пілота і вестка аб яго апошнім баявым заданні.

Трэба было сабраць гэтую памяць: слова да слова. І мы зрабілі запыты ў архівы і ваенкаматы.

17 студзеня 1979 г. Адказ з Цэнтральнага архіва Міністэрства абароны СССР: “Па архіўных дакументах выяўлена, што лётчык малодшы лейтэнант Марушчанка Міхаіл Радзівонавіч... праходзіў службу ў 517 знішчальным авіяцыйным палку 282 знішчальнай авіядывізіі 6 змешанага авіякорпуса 16 паветранай Арміі на самалёце ЯК-1Б. 30 лістапада 1943 г. быў збіты знішчальнікамі праціўніка ў раёне г.Жлобін, чыгуначная станцыя Заграддзе. Падстава: ЦАМА, вопіс 707376, с.6, л.13 і вопіс 211621, с.2, л.80.

Для звесткі паведамляем, што экіпаж у самалётах тыпу ЯК-1Б складаўся з аднаго чалавека.

Начальнік архівасховішча Шаталаў”

3 траўня 1979 г. з Апшаронскага райваенкамата Краснадарскага краю:

“... Паведамляем Вам, што бацька і маці мал. л-та Марушчанкі М.Р. у цяперашні час жывуць у пасёлку Ахтырскім, вул. Жданава, 63, Абінскага раёна, Краснадарскага краю... Сардэчна дзякуем за праведзеную работу ад бацькоў загінуўшага і ад Апшаронскага райваенкамата.

Часова выконваючы абавязкі Апшаронскага райваенкама Волкаў”.

11 траўня 1979 г. У лісце на імя Жлобінскага райваенкама маёра Сцяпуніна В.М. мы паведамілі гэтыя звесткі і прасілі выклікаць піратэхнікаў дзеля абследавання месца падзення знішчальніка, бо ў ліпені плануюцца раскопкі.

7 чэрвеня 1979 г. Тэлефанаграма маёра Сцяпуніна В.М. са Жлобінскага РВК:

“З успамінаў малодшага брата Ф.Ц.Кузьміна вынікае, што пасля вайны на лузе Альсы ля Дняпра быў бачны з зямлі хвост савецкага самалёта-знішчальніка. Мясцовыя падлеткі з в.Аляксандраўка залажылі ўзрыўчатку пад самалёт. Выбухам выкінула бот лётчыка з галёнкай, парашут, камсамольскі білет і грашовы атэстат на імя Марушчанкі з Краснадарскага краю...”

Мы рыхтаваліся да экспедыцыі. Не пахавальнай, а доўгачаканай, шчымлівай весткай з мінулага прыйшоў наш ліст бацьку і маці Мішы.

“Добры дзень, дарагія і вельмі шаноўныя навучэнцы ГПТВ-56 будаўнікоў!” — чытаў я сваім следапытам адказ бацькоў лётчыка ад 2 чэрвеня 1979 г., — “Дарагія дзіцяткі і ўнукі! Вялікі Вам дзякуй за тое, што адшукалі нашага роднага сыночка. Мы атрымалі звестку, што ён прапаў без вестак у 1943 годзе. 29 лістапада. І кожны дзень яго аплаквалі.

Дарагія дзіцяткі! Напішыце нам, як да вас прыехаць. Мы жадаем паглядзець хоць бы на яго магілку... Вы пытаецеся, якім ён быў? Добрым і пяшчотным. Мо ад таго і звалі яго аднапалчане па-дзявочаму — “Маруся”... Ён быў здольным хлопчыкам — у чатыры гады ўжо ўмеў чытаць і пісаць. У шэсць — пайшоў у школу...”

У ліпені РВС выехаў на раскопкі. Нам пашанцавала — на лузе Альсы вяліся асушальныя работы — толькі што палажылі дрэнаж. Наўрад ці мы дабіліся б свайго, калі б не гэта, ды яшчэ тое, што лета выдалася сухім. Уручную, па пояс у вадзе раскопвалі мы варонку, разпораз выцягвалі ўгору вёдры гразі. Сонца біла ў галаву, холад скурчваў ногі, але мы гэтага не заўважалі. Студзіла сэрца ад смутных радкоў ліста. І ад усяго таго, што знайшлі на глыбіні каля трох метраў...

Пальчаткі з фалангамі пальцаў... Футравы камбінезон, гімнасцёрка, у кішэнях якой — кавалкі паперы, якія зліпліся (потым, калі папрамываем і павысушваем, высветліцца, што гэта газеты “Доблесть” 16-й паветранай арміі ад 31 кастрычніка 1943 г. і “Красная Армия” Першага Беларускага фронту ад 27 кастрычніка 1943 г.). Астанкі лётчыка... Сярод абломкаў фюзеляжа і крылаў, пакарабачанага дзюраля, дэльтадраўніны і паркалю — кулямёт і пушка, абсталяванне кабіны, бой сталініта і аргшкла.

З дапамогай экскаватаршчыка Фёдара Паўлавіча Бельчыкава выцягнулі рухавік. Дарадчыкі атрада — былыя ваенныя авіятары Андрэй Ісакавіч Туранкоў і Аляксандр Канстанцінавіч Тачаловіч — дапамаглі нам апісаць паднятыя часткі, дэталі і вузлы.

Была нейкая ліхаманкавасць і хваляванне ад усяго, што адбывалася. І адчуванне чагосьці вялікага і сапраўднага, усведамленне якога толькі прыходзіла да нас. Я бачыў, як пошук ускалыхнуў людзей. Інакш і быць не магло ў краіне, дзе амаль у кожнай сям'і і да гэтай пары не ведаюць месца гібелі іх роднага чалавека. Магчыма, упершыню я па-сапраўднаму зразумеў, ШТО робім мы і як гэта калі-небудзь адклікнецца ў нашых душах...

З паднятага дзюраля зрабілі памятны знак, якім адзначылі месца гібелі лётчыка.

# РОСНЫ



...На Беларусі ў старажытныя часы быў звычай называць гарады па рэках, на якіх яны паўставалі: Полацк — на Палаце, Віцебск — на Віцьбе (там, дзе гэтыя невялічкія цяпер рэчкі далучаюцца да паўнаводнай Заходняй Дзвіны). Падтрымала традыцыю і мястэчка Расоны — яно паўстала на беразе возера Расона, а недалёка цячэ і рачулка-ручай Расонка. Сёння Расоны вядомыя як самы паўночны райцэнтр Беларусі, у часы вайны — “сталіца” партызанскага Брацкага краю. Але мясцовыя жыхары часам расказваюць свае легенды, якія з гістарычнай ды геаграфічнай праўдай маюць, можа, і няшмат агульнага.

### Легенды

— Вёска Расоны вядомая ці не з XVII стагоддзя. Можа і была б сабе звычайнай вёскай, ды пасяліліся тут неяк паны — браты Алесь ды Мікалай Глазко, сядзібу пачалі будаваць і назву ёй далі асобную — Станіслава. Адзін з іх хутка засумаваў і з'ехаў кудысьці. Другі застаўся гаспадаром, ды закахаўся ў польскую паненку. Ну, вядома ж, тыя здольныя на выкрутасы. “Пабудуй мне, — кажа, — замак, ды каб не горшы быў, як у майго бацькі, тады пайду за цябе”. Той, зразумела, рады старацца. Вось і з'явіўся на самым беразе возера замак, трохпавярховы, са шматлікімі вежамі ды вежачкамі, на каменным цокалі, муры з чырвонай цэглы, а вуглы белыя. Мала таго, у двары была выкапана круглая сажалка, берагі — цэментаваныя, вакол — кветнікі. У сажалцы плавалі лебедзі, а паненка раніцай выходзіла на балкон ці на адзін з плоскіх дахаў, бо замак ступенямі пабудаваны, піла там сваю каву і глядзела на ўсю гэтую прыгажосць. Калі ж і гэта прыскучыла, стала на возера паглядваць. Ды што там возера — “позірку няма на чым затрымацца”, — кажа мужу. І гэтую справу паправіў закаханы муж, насыпаў пасярод возера выспу і дрэвы розныя нязвыклыя на ёй пасадзіў... Пан быў не тое каб люты ўласнік, крывасмок ды эксплуататар — па ўсім мяркуючы, галаву меў добрую ды і фантазіяй вылучаўся, а просты люд не крыўдзіў. Але парадак быў у яго на першым месцы, таму, калі пачаліся рэвалюцыі ды смуты, ціха падаўся ў Еўропу, кажуць, у Швейцарыю, напэўна і рахунак там меў у банку. У замку потым што толькі не ладзілі: быў тут і засценак, і царква, і раддом, і дом для састарэлых. Цяпер вось “Дом школьніка”, а хутка, кажуць, зойме яго мясцовая арганізацыя Патрыятычнай моладзі...

Землі нашы не кажы, што бедныя, хаця, можа, на багаты ўраджай іх і не хапае — камяні ды гліна. А вось таленты тут родзяцца не горш, чым у іншых. Ян Баршчэўскі, напрыклад, тут нарадзіўся і дзяцінства правёў. Тое, што з дзяцінства запомніў, пра тое і напісаў потым у сваім слаўтым творы “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях”...

Калі Напалеон пайшоў на Расію, тут, на Расоншчыне, пад Клясціцамі першая вялікая бітва адбылася. Атрад пад камандай рускага генерала Якава Кульнёва разграміў вялікі корпус французаў, у выніку дарога на Пецярбург была для Напалеона закрыта. Сам Кульнёў у тым баі загінуў, там і пахаваны. А напярэдадні казаў свайму ад'ютанту: “Недзе ў гэтых мясцінах, проста на пастаялым двары, маці мяне нарадзіла”...

Шмат параненых французаў засталося тады на нашай зямлі, дык нашыя ж сяляне іх і выхадзілі. Успамінам пра тое, напрыклад, прозвішчы: вось “Машэраў” — дакладна вядома, што паходзіць ад французскага “ma chere” — “мая дарагая”...

### Рэчаіснасць і памяць

Рэчаіснасць сустракае вандроўніка, што набліжаецца да Расон, здалёк і вельмі канкрэтна: нехта можа і разгубіцца, калі над дахамі вясковых хат на ўскраіне заўважыць... самалёт, ЯК-40. А чым далей — тым больш: ля развілкі дарог на бетонным узвышшы — 57-міліметровая процітанкавая гармата, яшчэ трохі далей, ля ружовага двухпавярховага дома з белымі калонамі ўжо невялікая вайсковая база — мінамёты, у тым ліку “Кацюша”, гарматы, самаходкі, усе яркага ядавіта-зялёнага колеру. Тут можна перавесці дух, бо зброя гэта — усяго толькі танны і велічны на чыюсьці думку спосаб захавання памяці аб подзвігах у Вялікай Айчыннай вайне. Самалёт жа — “гарманічны і арыгінальны” варыянт кіназалы. Ды не дайшлі ў таго “мысліцеля”, відаць, рукі, каб сваё зрабіць, так і апынуўся тут філіял аэрафлотаўскага сметніка. (Дарэчы, па нашых часах, сметнік можа стацца “залатым”, калі ўлічыць сённяшні кошт каляровых металаў.)

Арсенал ля ружовага дома — частка экспазіцыі “Музея баявога супольніцтва беларускіх, рускіх, латвійскіх і літоўскіх партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны”. Аб музеі трохі ніжэй, бо першае, што трэба наведаць, — гэта мемарыял у гарадскім сквэры, насупраць. Мемарыял велічны, што і казаць: чорны мармур, серабрысты метал, бронзавыя надпісы. Шмат прозвішчаў, я налічыў больш за паўтары тысячы, адны — вялікімі літарамі на сцяне, другія — маленькімі на чорных дошках, што налеплены з усіх бакоў на дзесятку бетонных блокаў. Большасць прозвішчаў з ініцыяламі, пры некаторых — адзін ініцыял, а часам і ніводнага. Але хто ўсе гэтыя загінуўшыя людзі: партызаны, падпольшчыкі, чырвонаармейцы, — нідзе пра гэта вы не даведаецеся...

“Сынок, дзе тут Кісялёў Сяргей?” — запытала ў мяне згорбленая бабулька. “Прыехала ў раён у аптэку, дай, думаю, зайду пагляджу яшчэ на помнік. Кажуць, ужо дапісалі...” Каб знайсці патрэбнае прозвішча, абышлі разам усе блокі, бо прозвішчы тут пералічаны з пагардай да алфавіта. Нарэшце, знайшлі — на апошняй, напэўна, дошцы, дзе прозвішчы ўжо не адлітыя з металу, а проста

## II. ЛІСТЫ

А ў Гомелі нас ужо чакалі лісты родных і аднапалчан.

З лістоў бацькоў Мішы:

"... вучыўся, як ён казаў, і за бацьку, і за маці — на выдатна (бацька — Радзівон Піліпавіч — закончыў лікбез і курсы майстроў-нафтавікоў. Быў рэпрэсіраваны: з 1937 па 1940 гг. знаходзіўся ў зняволенні. Адзін з самых вядомых спецыялістаў па ліквідацыі аварый на нафтапромыслах Паўночнага Каўказа. У гады вайны працаваў майстрам у школе ФЗН №19 г.Бугуруслана. Быў узнагароджаны ордэнамі Леніна і "Знак Пашаны", медалямі. Памёр 15 кастрычніка 1983 г. Маці — Аляксандра Паўлаўна — старэйшая дачка ў сям'і, дзе было 18 дзяцей. Закончыла 3 класы. У дзяцінстве марыла стаць настаўніцай. Памерла 20 чэрвеня 1985 г. — М.Г.) Клапатлівы хлопчык, ён багата чытаў, любіў футбол — быў лепшым варатаром школьнай футбольнай каманды, нават па мясцовым радыё адзначалі. Працавіты ва ўсім: за кнігай, у агародзе, на футбольным полі. А аднойчы кажа: "Хачу быць лётчыкам. Мама, дазволь паступіць у Ваеннае вучылішча. Я вас заўсёды слухаў, але калі зараз не дазволіце, то збягу". 21 чэрвеня — за дзень да вайны прыехаў на канікулы. Дзень усяго і пабыў... А рэчы яго мы не захавалі. Ён жа пайшоў з дому ў 17 гадоў, яны б яму ўжо не падышлі б..."

Ён спяшаўся жыць, усё паспяваў і рабіў на "выдатна", быццам ведаў, што 20 гадоў яму не споўніцца ніколі...

З лётнай школы Міша пісаў лаканічныя, як дэпешы, але частыя лісты: "Выбачайце, — апраўдваецца ён перад маці, — за такія кароткія лісты! Будзе больш аб чым распавядаць, калі сустрэнемся".

Чым бліжэй фронт да Каўказа, тым далей ад роднай хаты ідзе курсант Міхаіл Марушчанка. З лётным вучылішчам: з Краснадара ў Майкоп, з Майкопа ў Пугачоў Саратаўскай вобласці. Яго бацька — чалавек са светлай галавою і залатымі рукамі — вывозіў нафтавае абсталяванне за Урал. Жонку і дачку ён не паспеў эвакуіраваць на Усход, а абсталяванне ад фашыстаў выратаваў...

"Добры дзень, дарагі бацька! — пісаў яму Міша восенню сорак другога ва ўральскі гарадок Бугуруслан. — Мяне ўсхваляваў артыкул "Мёртвая нафта" ў газеце "Красная звезда". Аб зверствах немцаў у Нафтагорску. Крамы ператвораны ў стайні. Рэквізаваны ўсе харчовыя прадукты. Жыхары сталуюцца дзічкамі і каштанамі. Па вуліцы Першамайскай стаіць шмат шыбеніц. Павешаныя вісяць па некалькі дзён з дошчачкамі, на якіх напісана "за сабатаж нафтараспрацовак". Фашысты шукаюць карты і планы промыслаў, абяцаюць узнагароду тым, хто дапаможа ім у аднаўленні. Я ўпэўнены, што перш чым пайсці адтуль, ты слаўна папрацаваў, каб нічога не пакінуць ворагу".

Яму сніўся дом, персікавы сад, варэнне з пялёсткаў ружы... Яны з братам ганяюць у футбол, а Лілька скача на адной назе і пляскае ў далонькі, калі Мікола забівае яму гол... Вось яна бяжыць за машынай: "А нас на фронт возьмеце?" "Як-небудзь без вас абыдземся!" — з "пыхай" адказваў ёй... Як гаравала маці, калі ў 1939 годзе Мікалая не прынялі на геалагічны факультэт МГУ. Ды і як паступіць яму, калі бацька — "вораг народа"??? Вайну брат сустрэў на мяжы... У Беларусі, пад Шчучынам... Неўзабаве бацькі атрымалі "пахавальную" — "загінуў смерцю храбрых". Але ў гэта Міхаіл не жадаў верыць. Што з Мікалаем, што з маці і Ліляй? Заставалася чакаць і спадзявацца.

І вось, нарэшце, вестка аб вызваленні роднага горада.

"Цяпер я дазнаўся пра Вас — гара з плячэй, засталася на сэрцы рана — ці жывы Мікалай? (Толькі ў студзені 1982 г. мы даведаемся, што радавы 229 стралковага палка Мікалай Радзівонавіч Марушчанка, 1922 года нараджэння, памёр у нямецкім палоне 15 студзеня 1942 года ў шталагу № XII-A, г.Лімбург, Германія. — М.Г.). Я закончыў школу, стаў малодшым лейтэнантам. Ці цэлы наш сад? Якія будынкі разбураны? Як школа, хто ёсць з маіх настаўнікаў? — пытаецца ён у маці 1 траўня 1943 года з Расказава пад Тамбовам, куды толькі што прыляцеў. — Мне падабаецца быць лётчыкам. Вы не думайце, што я толькі сумую і чакаю лістоў. Іншы раз так стомішся, што галава трашчыць і ледзь дабярэшся да пасцелі".



З пахвальнымі граматамі пераходзіў ён з класа ў клас, паспяхова засвоіў і трохгадовы курс у школе пілотаў. З паўгода не палятаў з Аляксеем Сцішковым, як іх пара была прызнана лепшай у палку. Ён, напэўна, шмат чаго б дасягнуў з гэтай сваёй неўтаймаванай дасканаласцю....

З лістоў аднапалчан мы даведаліся, што 517 ВАП у тыя лістападаўскія дні 1943 года базіраваўся пад толькі што вызваленым Гомелем.

Дзяніс Кандратавіч Камскоў, які служыў з Мішай у адной эскадрыллі, пісаў: "Мішу добра памятаю — гэта быў смелы юнак з адкрытым сэрцам і добрай душою. Я яму "па-беламу" зайздросціў. Бо пары Сцішкоў — Марушчанка даручалі найбольш складаныя заданні, напрыклад, знішчыць паравоз. Гэта на брыючым палёцё зайсці ў атаку пад вуглом 90 градусаў і расстраляць з кулямёта паравозны кацёл. 30 лістапада мяне не было ў палку — пераганяў самалёты пад Саратавам..."

...Быў Міша "вядомым" у старшыны Алёшы Сцішкова. Сцішкоў рупліва апекаваў маладога напарніка і цешыўся, як хутка і проста на вачах Міша рабіўся майстрам паветранай атакі.

А 5 лютага 1944 г., калі жменька "Якаў" счапілася з 40 "фоккевульфамі-190", загінуў Аляксей Сцішкоў. У гэты бязвоблачны сонечны дзень у раёне Чэрнін-Замошша, што пад Шацілкамі, ён прыкрыў свае "Бастоны", збіў фашысцкі знішчальнік, але і сам быў падбіты.

З фронту лісты Мішы сталі яшчэ больш кароткімі і стрыманымі:

"Як б'ем немцаў, — піша ён бацьку ў кастрычніку 1943 года, — ты, мусіць, ведаеш з газет. А гэты ліст атрымаеш праз месяц, калі ён ужо будзе стары".

Гэты апошні ліст Мішы ненамнога апярэдзіў казённую паперку: "прапаў без вестак..."

## III. НАШ ОРДЭН

Зараз мы ведаем, што пазыўны "Маруся" апошні раз прагучаў у эфіры пад Жлобінам 30 лістапада 1943 г. "Ястрабок" Міхаіла прыкрываў штурмавікі 229 авіядывізіі (у складзе якой змагаўся і загінуў у гэты дзень экіпаж Г.А.Ананьева і І.С.Колабава, з якога мы пачыналі гэты пошук) і быў збіты над горадам.

Тут яго і пахавалі праз 36 гадоў пасля гібелі. За журботным лафетам ішлі маці і бацька, баявыя сябры з 517 Калінкавіцкага ордэна Суворава III ступені знішчальнага авіяпалка, прыціхлыя дзеці, па абочынах вуліц стаялі бабулькі ў чорных хустах...

"... Сёння мы не хаваем Мішу, а праводзім яго ў бессмяротнасць", — сказаў аднапалчанін лётчыка Анатоль Дзмітрыевіч Кузняцоў. А Сяргей Вячаслававіч Баеў пасля слоў: "Я глядзеў на жыхароў Жлобіна, якія плачуць. Смерць я не гэтак перажываў (усё ж такі ішла вайна), як сённяшні дзень. З Беларусі я вязу другое сэрца — першае ў мяне кепскае..." — пачаў адкручваць адзін з ордэнаў Чырвонай Зоркі на сваім пінжаку. У яго твары і дзеяннях была такая рашучасць узнагародзіць РВС сваім баявым ордэнам, што я здранцвеў... Нам з цяжкасцю ўдалося яго прыпыніць...

Родныя Мішы прывезлі маім дзецям кош вінаграду. Аляксандра Паўлаўна — маці лётчыка — гладзіла іх, абдымала, плакала і ўсё прасіла: "Ешце вінаград, дзетачкі".

Міша, усё ж такі ты прыляцеў да нас, да людзей, якія цябе чакалі. Мабыць, таму, што і мы пайшлі насустрач... Мы сустрэліся, і цяпер ты глядзіш на нас з далёкага 1943 года. І будзеш глядзець заўсёды.

**P.S.**

Праз гады каля месца гібелі лётчыка з'явіліся два новыя памятныя знакі. Адзін з іх быў пастаўлены паблізу нашага невядомым да гэтай пары гамяльчанінам. Вялікі дзякуй яму за гэта!

Другі знак — піраміда з нержавеючай сталі — быў усталяваны... на месцы нашага. А наш — дубовы слупок з зоркай — проста знеслі.

Хто? Дырэктар Жлобінскага ПТВ-187 Андрэй Васілевіч Лук'яновіч вясной 95-га тлумачэнне гэтаму даць адмовіўся. Хоць на нержавейцы было напісана, што лёс М.Марушчанкі выявіў атрад "Пошук" Жлобінскага ПТВ-187.

**Марат ГАРАВЫ**

*На здымках:*

1. Міхаіл Марушчанка. 17 ліпеня 1943 г.

2. Лётчыкі III авіяэскадрыллі 517 ВАП ля самалёта ЯК-1Б перад Арлоўскай аперацыяй. Чэрвень 1943 г. Злева ляжыць Аляксей Сцішкоў. У другім радзе злева направа: А.Д.Кузняцоў (пазыўны "Толік"), С.В.Баеў (пазыўны "Сярога").

3. Раскопкі самалёта М.Марушчанкі. Ліпень 1979 г. Луг Альсы.

# КРАЙ

напісаны больш-менш роўна фарбай па чорным лаку, відаць, нядаўна выяўленыя. Бабулька праз паламаныя акуляры ўглядалася ў літары. "Вось і знайшлі, — прамовіла — Сярожа, брат мой дваюрадны... Трапілі яны з хлопцамі проста ў нямецкую засаду, тыя з кулямёта — па нагах, а потым закалолі параненых штыкамі — зброі-та ў нашых амаль што і не было..." Казала так, як быццам не прайшло з тае пары 54 гады, як быццам учора яшчэ дзяўчынкай плакала па браце.

Падобных жахлівых фактаў гэтая зямля памятае шмат. "A la guerre comme a la guerre", як кажуць тыя ж французы, "на вайне як на вайне". На самым беразе возера — помнік, два каменныя паралелепіпеды: "Тут 16.09.42 пасля зверскіх катаванняў ... расстраляны члены Расонскай падпольнай партыйна-камсамольскай групы і члены іхніх сем'яў..." Пералічаны дзевяць прозвішчаў, з іх восем — жаночыя: як скончылася першая зіма акупацыі, вясной сорак другога мужчыны сышлі ў лес, у партызаны, жанчыны ж засталіся — з дзецьмі куды пойдзеш? У Праскоўі Дзяружынай, напрыклад, было тры дачкі: 3, 5 і 7 гадоў. Апошні раз сваю маці яны бачылі жывой проста напярэдадні расстрэлу, праз краты ў падвале замка, дзе немцы зрабілі астрог. А ўжо праз тры дні партызаны вызвалілі пасёлак ад захопнікаў — аж да канца вайны. Брацкі партызанскі край, ці Паўночная партызанская зона, ахоплівала плошчу больш за 100 тысяч квадратных кіламетраў, на якой дзейнічалі 26 партызанскіх брыгад (200-300 чалавек у кожнай) ды больш за 40 атрадаў (40-50 чалавек). Зона ўключала цяперашні Расонскі раён, закранала тэрыторыі Літвы, Латвіі і Расіі.

### Памяць і беднасць

Сярод расстраляных на беразе возера была і Дар'я Пятроўна Машэрава, жонка "ворага народа" Мірона Машэрава, маці Пятра Міронавіча. Дваццацітрохгадовым настаўнікам той сустрэў вайну, заснаваў падпольную ячэйку на захопленай немцамі Расоншчыне. Яна ператварылася потым у партызанскі атрад. У музеі я бачыў копію яго заявы ў кампартыю: "У партарганізацыю ... атрада імя Шчорса Расонскага раёна... Ведучы барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і выганяючы гэтых псоў-звяраў з нашай вольнай радзімы бальшавікоў, — я жадаю рабіць гэта камуністам. А таму прашу прыняць мяне ў кандыдаты нашай камуністычнай партыі бальшавікоў. 21.07.42". Машэраў хутка стаў камісарам адной з найбуйнейшых партызанскіх брыгад, імя Ракасоўскага. Праз дваццаць гадоў ён узначаліў ужо Беларускую рэспубліку на пасадзе першага сакратара партыі. Але да самой сваёй трагічнай гібелі ў 80-м годзе не забываўся на землякоў і сяброў-партызан. Прынамсі два разы на год прылятаў у Расоны, верталёт садзіўся проста на стадыён. Выбіраўся і па вёсках. Расказваюць, неяк у Роўным Полі, дзе быў калісьці штаб партызан, абступілі яго бабулькі, смяяліся з нечага — проста ад радасці сустрэчы са славутым земляком. А ён і пытае: "А што ж, бабулькі мае, без зубоў вы зусім?" — "Дык няма тут дактароў, Пятро Міронавіч, няма каго і папрасіць". — "Усё будзе", — адказаў. І праз нейкі час праехаліся па вёсках сталічныя спецыялісты, а вясковыя бабулькі хутка "палохалі" адна адну навюткімі, добра падагнанымі пратэзамі...

Менавіта па ягонай задумцы Расонскі музей зроблены быў не раённым краязнаўчым, а музеем славы партызанскай зоны. Нейкі час існаваў нават як філіял Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У той час і была створана пастаянная экспазіцыя з дапамогай сталічных музейных экспертаў. Экспазіцыя добрая, прафесійна аформленая, з падсветкамі ды шклянымі вітрынамі, але ж і з духам тагачаснай ідэалогіі. Можа, справа нават і не ў ідэях — што б у нашым светапоглядзе ні мянялася, тую вайну выйграў, выстаяў наш народ менавіта з камуністамі на чале. Але холадам і фармалізмам, да якога быў прызвычаены савецкі чалавек, "савок", ужо не задаволіш сённяшняга беларуса, які трохі пазнаў свабоды і мае ўласныя меркаванні аб жыцці і аб тым, з якіх крыніц выбіраць інфармацыю.

Па-другое, сякія-такія неблагія і перадавыя для сваёй пары прыстасаванні — электронная карта, напрыклад, ці вялікаэкранны дыяпраектар — з цягам часу папсаваліся, а рамантаваць няма каму: свае спецыялісты адсутнічаюць, а запрашаць са сталіцы — грошаў не хапае. Вось і праходзяць экскурсіі шпаркай хадой праз залу, дзе нават і святло цяпер не запальваюць, каб не дражніць. Ды што прыстасаванні! У адным з залаў збоку сарамліва прытуліўся ... звычайны драўляны слуп — ім падпіраюць столь. У свой час музею быў аддадзены будынак райкама партыі (зразумела, сам райкам пераехаў у новы, са шкла і бетону, у чатыры паверхі). Будынак аказаўся прыгожым знешне ды гнілым усярэдзіне — як і ўся камуністычная ідэалогія. Драўляныя перакрыцці паміж паверхамі прагнілі, і цяпер, калі на экскурсію прыходзяць групы школьнікаў старэйшага ўзросту і ідуць па другім паверсе, супрацоўнікі музея паглядваюць на столь ды гадаюць, ці не абваліцца яна ім на галовы...

Да чаго я пра ўсё гэта кажу, пацяшаюся над правінцыйнасцю? Ні ў якім разе. У люстэрку мемарыялаў Расонскай зямлі ўбачыў я тое, з чым пагадзіцца не жадаю, ні ў правінцыі, ні ў сталіцы. Кепска, калі памяць людская, удзячная памяць аб продках, героях і пакутніках, вымушана абапірацца на аляпаватыя пампезныя вобразы, задуманыя з мэтай "ідэалагічнага выхавання мас". Можа, лепей быў бы замест пыхлівага крыклівага мемарыяла, сярод якога чалавек губляецца ад няўтульнасці ды і ўтрымліваць які ў належным стане не надта проста, — ціхі зразумелы абеліск, зроблены за тыя ж сродкі акуратна і годна. А замест пустуючага музея вайсковай славы, у які моладзь загоніш толькі пагрозамі страшэнных кар, ды і то адно дзякуючы таму, што моладзь тут сціплая пакуль, напалову вясковая, у партрыярхальным духу вырашчаная, — зрабіць усё ж музей гісторыі гэтай зямлі, што і вайну перажыла, і рэвалюцыю, а яшчэ раней — іншыя войны і дзяржаўныя падзелы. Чаму б не даваць памяці людской тое, што ёй і патрэбна, — сімвалы мінулых часоў, такія, за якія не сорамна — ні перад сабой, ні перад гасцямі і ні перад тымі ж продкамі?

**Ігар КЛОКАЎ**



# СУСТРЭЧЫ НА МАСКОЎСКІМ МЕРЫДЫЯНЕ

У жніўні споўнілася 40 гадоў, як адбыўся ў Маскве Другі сусветны фестываль моладзі і студэнтаў, удзельнікам якога і мне пашчасціла быць. Ад Саюза мастакоў Беларусі нас паслалі дваіх — мастака Мішу Бельскага і мяне, як маладога, "што падае вялікія надзеі", як пажартаваў старшыня Павел Нічыпаравіч Гаўрыленка. "Толькі ж глядзіце ў мяне", — загадаў ён усміхаючыся.

І вось мы ў Маскве. У мастацкім фондзе нам выдалі па саліднай суме грошай, каб у нас "быў добры настрой", як сказаў старшыня Саюза мастакоў СССР Сяргей Васілевіч Герасімаў. Нас, мастакоў з усіх саюзных рэспублік, размясцілі ў Доме творчасці ў Чэлюскінскім пад Масквой. Адтуль штодня на аўтобусе прывозілі ў цэнтр сталіцы, а нанач адвозілі назад.

І вось настаў дзень, калі з усяго свету пачалі з'язджацца ўдзельнікі фестывалю. Трэба было бачыць, з якім энтузіязмам, з якой ветлівасцю сустракалі мы кожную дэлегацыю, кожную аўтамашыну з гасцямі. Здавалася, што ўся Масква выйшла на вуліцы. Бо і сапраўды мы ўпершыню ўбачылі сваіх аднагодкаў з-за граніцы, з усяго свету, убачылі, якія яны розныя, цікавыя і непаўторныя. Паўсюдна на вуліцах, асабліва ў цэнтры, на Краснай плошчы, хадзілі групы і групкі рознакаляровых гасцей у нацыянальных касцюмах, экзатычных вопратках. Іх акружалі



натоўпы масквічоў, заводзілі размовы, жартавалі, смяяліся, знаходзіліся энтузіясты-перакладчыкі, паўсюдна гучалі музыка, спевы, масквічы кружыліся ў танцы.

Міша Бельскі добра размаўляў па-нямецку, а маё веданне ангельскай, польскай, нямецкай, літоўскай, тым больш беларускай мовы давала магчымасць знаходзіць паразуменне, бо беларуская мова гэта, можна сказаць, — эсперанта ўсіх славянскіх моваў. Мы свабодна разумелі балгар, чэхаў, славакаў, дэлегатаў з Югаславіі.

У парку імя Горкага, у адным з павільёнаў, была арганізавана міжнародная мастацкая студыя. Там штодня мы сустракаліся з усімі мастакамі — удзельнікамі фестывалю. Каб госці сябе добра адчувалі, у Саюзе мастакоў склалі спіс, хто з кім "павінен падружыцца". Нам, беларусам, дасталася Мексіка. Там былі такія вядомыя людзі, як мастак і выдатны спявак і гітарыст Марыо Ароска, мастак-графік Андрэа Гомэз. Мы адразу ж знайшлі агульную тэму для размовы. У Мексіцы ў той час квітнела мастацтва графікі. Яны расказвалі, як робяць гравюры, як друкуюць, на якім станку, як рыхтуюць фарбу валікі. Хто фінансуе і падтрымлівае іх дзейнасць. Са свайго боку, яны цікавіліся, як гэтая



справа наладжана ў нас. Ім вельмі спадабаліся мае гравюры, што былі на выставе, асабліва "Партрэт будаўніка Мінска", які я ім падарыў. Яны таксама падарылі нам шмат сваіх гравюр. Міжволі мы пачалі маляваць партрэты адзін аднаго. Гэтым, у асноўным, і займаліся на працягу ўсіх дзён, пакуль доўжыўся фестываль.

Я зрабіў серыю партрэтаў дэлегатаў фестывалю, іх паказвалі на розных мастацкіх выставах, мяне пахвалілі, закупілі ў мастацкі музей, і нават сам тагачасны сакратар ЦК КПБ Кірыл Мазураў павіншаваў мяне з творчай удачай. Кожны мастак — удзельнік фестывалю прывёз з сабою ў Маскву і некалькі сваіх работ, з якіх і была сфармаваная ў Акадэміі мастацтва СССР міжнародная мастацкая выстава і называлася яна "Мастацтва пяці кантынентаў". У міжнароднай мастацкай студыі і ў парку імя Горкага нас штодня наведвалі розныя госці. Было вельмі цікава бачыць, як мастакі розных накірункаў, пачынаючы ад абстракцыяністаў, фармалістаў і іншых мадэрністаў, канчаючы рэалістамі, малююць аднаго і таго ж чалавека.

Аднойчы да нас у студыю зайшоў амерыканскі мастак Колмэн. Агледзеўшы нашы работы, ён прапанаваў паказаць нам, як ствараюць карціны ў Амерыцы, у прыватнасці, як гэта робіць ён. Яму далі падрамнік, фарбы, пэндзлі, і ён за пару гадзін размаляваў усё палатно рознакаляровымі плямкамі, кропачкамі, рыскамі. Ён сказаў, што гэта яго ўражанні ад фестывалю. Нам, савецкім мастакам, "заскарузлым сацрэалістам", падалося гэта штукарствам. Наогул мы шмат спрачаліся, гаварылі аб мастацтве, аб жыцці, аб камунізме, капіталізме. Мы шчыра верылі, што ўсё, што робіцца ў Савецкім Саюзе, робіцца адзіна правільна. Нашы госці нам верылі ці часам рабілі выгляд, што вераць, але паўсюдна была атмасфера добразычлівасці, душэўнай прыязнасці, дружбы. Запомнілася мне знаёмства з адным мастаком з Заходняга Берліна. Яго бацька загінуў на Усходнім фронце, у яго нават быў мінскі адрас, дзе тады спыняўся яго бацька. Яго сын, мастак, марыў прыехаць у Мінск, каб знайсці магілу бацькі... Мне трохі было шкада гэтага наіўнага нямецкага мастака, які пранікся да мяне такой сімпатыяй.

Фестывальныя сустрэчы пашыралі наш кругагляд, нейкі свежы вецер падзьмуў у нашых галовах, у нашых поглядах на жыццё, на мастацтва, на рэчаіснасць. Людзі старэйшага пакалення памятаюць, як пазней вялася барацьба з гэтым вецярком: са стылягамі, з вузкімі штанамі, з тоўстымі падэшвамі... Мне, напрыклад, ужо ў Мінску на партыйным сходзе запісалі вымову за тое, што я ў летнія гарачыя дні прыходзіў у інстытут у клецістай кашулі...

Усё гэта ўжо гісторыя, і час, які мы ўмоўна называем хрушчоўская "адліга" і застойны перыяд, — усё прайшло. А тады неяк і думкі не прыходзіла, што калі-небудзь з такой адлегласці буду ўспамінаць той час...

**Сямён ГЕРУС,**
**мастак**



# ЗОРКІ — ЗОРКАМ

## Астралагічны прагноз для творчых людзей на перыяд з 25 па 31 жніўня.

Першая палова гэтага тыдня будзе напружанай для многіх, але тым, хто здольны насуперак абставінам паказаць настойлівасць разам з трапяткім стаўленнем да жыцця, наканаваны поспех. Пры гэтым, праўда, давядзецца выканаць адну маленькую ўмову — пакапацца ва ўласных глыбінях і зразумець, чаго ж, на самай справе, хочацца дасягнуць і навошта. Неабходна пераасэнсаваць матывы ўчынкаў і прэпарыраваць страсці. Такая праца можа ўвесці ў "круты" дэкаданс тых, хто слабы духам. Хочацца суцешыць тых, хто страціць цвёрдую глебу пад нагамі, —вашыя магчымасці дазволяць убачыць матывы многіх учынкаў тых, хто побач з вамі. Галоўнае — не зацыкліваццa на негатыўных, на першы погляд, рэчах. Усё гэта з'явіцца добрым падмуркам для творчых натхненняў і выкіду ствральнай энергіі ў другой палове тыдня. Пры гэтым пасляховасць будзе проста прапарцыянальнай дынамізму і смеласці ў паводзінах творцаў. Тым, хто мае глабальныя задумы, катэгарычна не рэкамендую "разменьвацца" па дробязях. Захавайце вернасць сваёй мары, будзьце смелымі і ўпартымі, — і поспех падорыць вам добразычлівую і шматабяцальную ўсмешку. Словы Віктара Цоя: "Тым, хто кладзецца спаць, — спакойнага сну..." стануць дэвізам для тых, чыя душа не дрэмле. Згодна з ім, гэтыя людзі літаральна "зварухнуць горы" ў самым пазітыўным і добрым сэнсе.

АВЕНЫ ў першай палове тыдня паспрабуюць засумнявацца ў сваіх сілах, майстэрстве і прафесіяналізме. Рэкамендую ім часцей узгадваць словы вялікага класіка: "Из искры возгорится пламя" і не гасіць творчы агеньчык сваёй душы. У другой палове тыдня Авены здолеюць прадэманстраваць ва ўласных творах філасофскую глыбіню і далікатнасць.

ЦЯЛЬЦЫ па-новаму зірнуць на праблемы творчасці ў першай палове тыдня. Гэты погляд будзе некалькі шакіруючым, але палохацца яго не варта. Няма нічога вечнага пад Месяцам, і меркаванні не з'яўляюцца выключэннем. Затое ў другой палове тыдня ім будзе невядома супрацiўленне матэрыялу.

БЛІЗНЯТАМ не варта занадта крытычна ставіцца да класікаў у першай палове тыдня. Лепей перагледзець некаторыя свае перакананні і набыць нарэшце цвёрдую глебу для ўласных творчых пошукаў. У другой палове тыдня вашым козырам стане няўрымслівасць і смеласць у выбары выяўленчых сродкаў.

РАКІ ў першай палове тыдня могуць засумнявацца ў неабходнасці пашырыць існуючыя сувязі і завязаць новыя знаёмствы. Пры ўсёй, на першы погляд, іх легкадумнасці, гэтыя сувязі будуць вельмі перспектыўнымі. У другой палове тыдня ім дапаможа жаданне абаперціся на ўласныя сілы.

ІЛЬВАМ у першай палове тыдня давядзецца паразважаць над вельмі няпростым пытаннем: як суадносіцца жаданне ствараць з неабходнасцю зарабляць. Пры гэтым важную ролю будуць адыгрываць унутраныя матывы творчых памкненняў. У другой палове тыдня ўменне далікатна выказаць уласныя думкі стане козырам у нялёгкай гульні творчага ўяўлення.

ПАННЫ будуць вымушаны ў першай палове тыдня ўзгадваць словы папулярнай рэкламы: "Імідж — нічога, смага — усё" і вырашыць для сябе праблему творчасці і папулярнасці. Непрызнанне твора — не азначае адсутнасці таленту. Другая палова тыдня дасць магчымасць палепшыць уласнае матэрыяльнае становішча.

ШАЛЯМ, як нікому іншаму, давядзецца пакапацца ва ўласных глыбінях. Іхні жанр — псіхалагічная драма, але пры гэтым важнымі будуць карані ўчынкаў, а не спосабы выказвання і позы. Будзьце рэжысёрам уласнага спектакля жыцця, і другая палова тыдня падорыць цудоўную магчымасць публічных выступленняў.

СКАРПІЁНАМ давядзецца перагледзець свае глабальныя творчыя напрацоўкі і стасункі з калегамі. Не варта сумаваць ад усведамлення таго, што некаторыя задумы не адпавядаюць жыццёвым рэаліям. Даверцеся ўласнаму адчуванню праўды жыцця і не складвайце рукі. Такая пазіцыя напрыканцы тыдня прынясе шэраг творчых перамог і натхнення.

СТРАЛЬЦАМ варта гучна заяўляць пра сябе ў першай палове тыдня. Вялікая верагоднасць зарабіць гучную, але вельмі скандальную славу не на сваю карысць. Патрывайце да другой паловы тыдня і вы здолееце вельмі эфектна аформіць уласныя творчыя задумы і напрацоўкі.

КАЗЯРОГАМ супрацьпаказаныя ў першай палове тыдня далёкія падарожжы і дыспуты на філасофскую тэматыку. Упартае адстойванне жорсткіх ідэалагічных стэрэатыпаў можа стаць прычынай сваркі з усім светам. У другой палове тыдня публічныя выступленні і публікацыі ў друку прынясуць добрую славу і ўзнімуць асабісты прэстыж.

ВАДАЛЕЯМ вельмі не пажаданая крытыка ўсяго і ўсіх. У кожнага — свая праўда і свая задача ў гэтым жыцці, а парады чужога, якім вы можаце стаць, здольныя знішчыць парасткі самых добрых пачынанняў. Другая палова тыдня будзе ўдалай для падарожжаў і азнаямлення з культурнымі каштоўнасцямі замежжа. Пастаўцеся ў гэты час да жыцця па-філасофску.

РЫБАМ ні ў якім разе не варта ў першай палове тыдня займацца справамі, звязанымі з аўтарскімі правамі. Адкладзіце любыя высвятленні да другой паловы тыдня. У гэты час вы здолееце па-новаму зірнуць на ўмовы дамоваў і атрымаць вялікую выгаду ад іх падпісання. У другой палове тыдня таксама пасляховымі будуць і выступленні перад публікай.

**Аляксей КАРПІНСКІ,**
**рэферэнт**
**"Акварыуніверсітэта".**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца
з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры
Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар —
Людміла КРУШЫНСКАЯ



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 21.08.97. у 15.30.

Замова 4858

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.